Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 6 (32)

ЧЭРВЕНЬ 1935 г.

МЕНСК — 1935

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР



# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

№ 6 (32)

ЧЭРВЕНЬ 1935 г.

МЕНСК — 1935

## Аб правядзенні ўчоту гаспадарак і жывёлы ў чэрвені-ліпені 1935 года

*Пастанова Совета Народных Камісараў БССР*

У адпаведнасці з пастановай СНК СССР ад 17 мая 1935 г. „Аб правядзенні ўчоту гаспадаркі і жывёлы ў чэрвені-ліпені 1935 г.“, Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць Народны камісарыят фінансаў БССР пры правядзенні сельскагаспадарчага падатку ў сельскіх мясцовасцях забяспечыць у чэрвені-ліпені 1935 г.:

а) поўны ўчот калгасаў, гаспадарак калгаснікаў і аднаасобных гаспадарак, як абкладаемых сельгаспадаткам, так і неабкладаемых гэтым падаткам;

б) поўны ўчот жывёлы ўсіх відаў і ўзростаў ва ўсіх гаспадарках, паказаных у п. „а“.

2. Абавязаць Кіраўніцтва народнагаспадарчага ўчота БССР у тыя тэрміны правесці:

а) поўны ўчот жывёлы ў соўгасах, каапгасах, аддзелах рабочага снабжэння, прамысловых, гандлёвых і транспартных прадпрыемствах, загатоўчых і адкормачных пунктах і камбінатах Заготжывёлы, а таксама ва ўсіх іншых дзяржаўных і грамадскіх арганізацыях, якія маюць прадукцыйную і рабочую жывёлу як у сельскіх мясцовасцях, так і ў гарадскіх паселішчах;

б) учот прыватна-ўласніцкай жывёлы, плошчаў пасеваў і садоў у гарадах і паселішчах гарадскога тыпу па спісу, устаноўленаму цэнтральным кіраўніцтвам народнагаспадарчага ўчоту.

3. Абавязаць кіраўнікоў гаспадарак, прадпрыемстваў і арганізацый, паказаных у п. „а“ арт. 2, пад іх асабістую адказнасць прадставіць да 5 чэрвеня гэтага года раённаму (гарадскому) інспектару наргасучоту дакладныя і асабіста імі правераныя весткі аб колькасці жывёлы, якая належыць паказаным гаспадаркам па становішчу на 1 чэрвеня 1935 г.

Апрача таго абавязаць дырэктароў соўгасаў і каапгасаў да таго-ж тэрміну прадставіць весткі аб колькасці гаспадарак рабочых і служачых, якія знаходзяцца на тэрыторыі соўгасаў і каапгасаў і аб колькасці належачай ім жывёлы.

4. Абавязаць раённыя выканаўчыя камітэты, а таксама Менскі, Віцебскі, і Гомельскі гарадскія советы забяспечыць аператыўнае кіраўніцтва і кантроль за правядзеннем учоту гаспада-

рак і жывёлы органамі Наркомфінансаў і Наргасучоту і вылучыць у распараджэнне гэтых органаў на час учотнай кампаніі праверaных і тэхнічна-падрыхтаваных работнікаў і неабходныя сродкі перасоўвання.

5. Для кіраўніцтва і кантролю за ходам учотнай кампаніі прымацаваць да кожнага раёна спецыяльнага ўпаўнаважанага СНК.

Абавязаць Наркомфінансаў і Кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчоту БССР у двухдзённы тэрмін прадставіць на зацверджанне СНК спіс упаўнаважаных.

Абавязаць наступныя Народныя камісарыяты і цэнтральныя ўстановы вылучыць для пасылкі ў раёны ў якасці ўпаўнаважаных СНК наступную колькасць адказных работнікаў: НКЗемляробства—15 чалавек, НКУнутранага гандлю—4 чал., Інстытут сельскай гаспадаркі—2 чал., НКХарчовай прамысловасці—2 чал., НКЦяжкай прамысловасці—2 чал., НКЛеспром—2 чал., НККомунальнай гаспадаркі — 3 чал., Акадэмія Навук—5 чал., Дзяржплан — 2 чал., НКМясцовай прамысловасці — 5 чал., НКАховы здароўя—2 чал., НКАсветы—3 чал., НКСувязі—2 чал., Камзаг — 3 чал., Заготжывёла — 3 чал., Заготскур — 2 чал., НКЮстыцыі—5 чал., Белкаапсаюз—5 чал., Белкаппромсовет—2 чал.

Абавязаць РВК прымацаваць да кожнага сельсовета свайго спецыяльнага ўпаўнаважанага для кіраўніцтва і кантролю за ходам учотнай кампаніі па сельскаму совету.

6. Персанальную адказнасць за правільнае і поўнае правядзенне ўчоту гаспадарак і жывёлы ўскласці ў раёнах на загадчыкаў райфа і раённых інспектароў народна-гаспадарчага ўчоту, а па БССР на народнага камісара фінансаў і начальніка кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчоту.

7. Ускласці на райфа і раённых інспектароў народна-гаспадарчага ўчоту інструктаж старшынь, сакратароў і рахункаводаў сельскіх советаў, членаў сельскіх падатковых камісій, членаў фінансавых секцый сельсоветаў і фінактывістаў па арганізацыі і тэхніцы правядзення ўчоту гаспадарак і жывёлы.

8. Абавязаць раённыя выканаўчыя камітэты не пазней 1 чэрвеня 1935 г. поўнасцю забяспечыць журналамі ўчоту асноўных вытворчых паказальнікаў калгасаў (форма № 1) і пагаспадарчымі кнігамі (ф. № № 2-а і 2-б), прадугледжанымі пастановай СНК БССР № 2008 ад 8 снежня 1934 г., тыя сельсоветы, якія яшчэ не маюць гэтых журналаў і кніг, а таксама іх правільнае і поўнае запаўненне ўсімі неабходнымі для ўчоту гаспадарак і жывёлы данымі.

9. Устанавіць наступны парадак учоту гаспадарак і жывёлы фінансавымі органамі і сельсоветамі.

а) учот калгасаў і аграмаджанай жывёлы ў калгасах праводзіцца непасрэдна раённымі фінансавымі аддзеламі;

б) учот гаспадарак і жывёлы калгаснікаў і аднаасобнікаў праводзіцца сельсоветамі пры дапамозе сельскіх падатковых камісій, склад якіх зацвярджаецца раённым выканаўчым камітэ-

там, поўная адказнасць за паўнату і правільнасць учоту ўскладаецца на старшыню сельскага совета;

в) спачатку сельсовет праводзіць суцэльнае апытанне гаспадарак і праверку даных апытання з наяўнымі матэрыяламі (матэрыяламі па абкладанню сельгаспадаткам у 1934 г., культзборам у 1935 г., перапісам жывёлы на 1 студзеня 1935 г. і т. д.), потым сельсовет выносіць даныя апытання на абгаварэнне пленума сельсовета з актывам, правярае зробленыя пры гэтым абгаварэнні заўвагі і ўносіць неабходныя выпраўленні;

г) пасля гэтага раённы фінансавы аддзел праводзіць праз спецыяльную брыгаду ў кожным населеным пункце выбарачную кантрольную праверку паўнаты і правільнасці ўчоту, шляхам абходу двароў і падліку жывёлы ў натуры і, у выпадку выяўлення значных няправільнасцей, праводзіць суцэльны пераўчот;

а) пасля сканчэння ўчоту і ўсіх праверачных работ сельсовет складае гатовы спіс аб выніках учоту гаспадарак і жывёлы і перадае яго раённаму фінансаваму аддзелу.

10. Абавязаць раённыя фінансавыя аддзелы, зацверджаныя імі ітогавыя зводкі ўчоту гаспадарак і жывёлы па паасобных сельсоветах неадкладна перадаваць раённым інспектарам народна-гаспадарчага ўчоту.

11. Абавязаць раённых інспектароў народна-гаспадарчага ўчоту неадкладна пасля атрымання ад раённых фінансавых аддзелаў ітогавых зводак учоту жывёлы рабіць, у адпаведнасці з указаннямі кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчоту БССР, праз спецыяльныя праверачныя брыгады кантрольныя абходы гаспадарак з падлікам жывёлы ў натуры. Кіраўнікі праверачных брыгад павінны вызначацца РВК.

Устанавіць, што кантрольныя абходы павінны ахапіць усе без выключэння калгасы.

Па гаспадарках калгаснікаў і аднаасобнікаў кантрольныя абходы павінны ахапіць цэлыя сельсоветы або населеныя пункты з тым разлікам, каб усяго было праверана ў кожным раёне не менш 10 проц. агульнай колькасці гаспадарак.

12. Абавязаць органы кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчоту пасля сканчэння ўчоту ў гарадах і паселішчах гарадскога тыпу, праводзіць кантрольны абход гаспадарак з праверкай жывёлы ў натуры, ахапіўшы імі не менш 10 проц. домаўладанняў. Абход домаўладанняў робіцца праверачнымі брыгадамі на чале з членамі горсовета (местсовета).

13. Устанавіць, што ўчот у сельскіх советах уключаючы кантрольныя абходы (арт. 11-12) поўнасцю павінен быць сконча не пазней 5 ліпеня.

14. Устанавіць, што вынікі ўчоту і вынікі кантрольных абходаў раённыя фінансавыя аддзелы і раённыя інспектары народна-гаспадарчага ўчоту дакладваюць раённым выканаўчым камітэтам. Зводкі вынікаў учоту гаспадарак і жывёлы і матэрыялаў кантрольных абходаў прадстаўляюцца раёнамі ў Кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчота БССР і НКФінансаў БССР не пазней 20 ліпеня.

Кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчоту БССР разам з НКФінансаў БССР прадстаўляюць у СНК БССР вынікі ўчоту гаспадарак і жывёлы па БССР у цэлым 3 жніўня.

15. Устанавіць, што асобы, вінаватыя ва ўтайванні ад дзяржаўнага ўчота гаспадарак і жывёлы, а таксама асобы, вінаватыя ў дрэнным правядзенні ўчотных работ, якое прывяло да недаўчоту гаспадарак і жывёлы, прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці.

16. Забараніць мабілізацыю работнікаў органаў НКФінансаў і Кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчоту, занятых правядзеннем учоту гаспадарак і жывёлы, на якія небудзь іншыя гаспадарчыя кампаніі.

Старшыня СНК БССР **М. Галадзед.**

Кіраўнік спраў СНК БССР **І. Лук'янчык.**

29 мая 1935 года.
г. Менск.

---

## Пастанова

## Совета Народных Камісараў Саюза ССР

*Масква—Крэмль.* *25 мая 1935 г. № 995*

### Аб устанаўленні размера пасеўных плошчаў пад ураджай 1935 г.

У мэтах устанаўлення правераных даных аб размеры пасеўных плошчаў пад ураджай 1935 г. па адміністрацыйным раёнам Саюза ССР па ўсім дзяржаўным і каапэратыўным гаспадаркам, калгасам, гаспадаркам калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых і служачых у гарадах і сельскіх мясцовасцях, Совет Народных Камісараў Саюза ССР пастанаўляе:

1. Абавязаць дырэктароў соўгасаў, кіраўнікоў сельска-гаспадарчых прадпрыемств ОРСаў, каапгасаў і іншых гаспадарак, належачых дзяржаўным і каапэратыўным арганізацыям, прадставіць не пазней чым праз 5 дзён па сканчэнні вясенняга сева раённаму інспектару ЦУНХУ Дзяржплана СССР, а дырэктароў соўгасаў сістэмы НКЗ СССР і Наркамземаў саюзных рэспублік таксама і Райземаддзелу заключную справаздачу аб фактычна засеянай у весну 1935 г. плошчы яравых і плошчы азімага кліна 1934 г. па форме заключнага адчота аб пасеўных плошчах, зацверджанай СНК СССР 20 лістапада 1934 г. для калгасаў.

Абавязаць дырэктароў соўгасаў і МТС прадставіць раённаму інспектару ЦУНХУ адначасова з вышэйпаказанымі данымі звесткі аб пасевах, утвораных на тэрыторыі соўгасаў і МТС рабочымі і служачымі апошніх для індывідуальнага карыстання.

2. Абавязаць старшынь калгасаў прадставіць раённаму зямельнаму аддзелу і ўчастковаму інспектару ЦУНХУ заключную справаздачу аб засеянай у весну 1935 г. плошчы яравых культур, а таксама аб плошчы азімага кліна 1934 г. па форме, зацверджанай СНК СССР 20 лістапада 1934 г., не пазней чым праз 5 дзён па сканчэнні сева.

3. Абавязаць сельсоветы: а) не пазней чым праз 5 дзён пасля сканчэння сева праз сваіх упаўнаважаных скласці спісы гаспадарак калгаснікаў і аднаасобнікаў, рабочых, служачых і іншага насельніцтва з паказаннем засеянай у восень 1934 г. і ў весну 1935 г. плошчы па асобным культурам, а таксама спісы сельскіх устаноў (школ, бальніц і інш.) з паказаннем утвораных імі пасеваў па культурам па зацверджанай СНК СССР 20 лістапада 1934 г. форме і прадставіць іх участковаму інспектару ЦУНХУ; б) адначасова паведаміць раённаму зямельнаму аддзелу ітогі пасеваў па гаспадаркам калгаснікаў і аднаасобнікаў па зацверджанай ЦВК і СНК СССР 7 снежня 1934 г. форме справаздачнасці аб ходзе вясенніх работ яравога сева

4. Абавязаць советы гарадоў і пасёлкаў гарадскога тыпа аказаць садзейнічанне органам ЦУНХУ пры правядзенні імі ўчота пасеваў у межах горада.

5. Устанавіць, што за дачу не правільных звестак, а таксама за непрадстаўленне звестак аб размерах пасеўных плошчаў у паказаны тэрмін, вінаватыя асобы прыцягваюцца да адказнасці на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР ад 27 лістапада 1933 г. „аб адказнасці за прадстаўленне неправільных учотных звестак і справаздачных даных, а таксама за парушэнне форм і тэрмінаў прадстаўлення ўчотна-справаздачных матэрыялаў" (З. З. СССР 1933 г. № 70, арт. 417).

6. Абавязаць ЦУНХУ Дзяржплана СССР праз свае мясцовыя органы ўтварыць дасканалую праверку прадстаўленых сель.-гасп. прадпрыемствамі, калгасамі і сельсоветамі справаздачных даных аб размерах пасеўнай плошчы і разам з Наркамземам Саюза ССР устанавіць размеры пасеўных плошчаў пад ураджай 1935 г. па саюзным і аўтаномным рэспублікам, краям, абласцям і раёнам з разбіўкай па культурам і катэгорыям гаспадарак.

Увага: Устаноўленыя ЦУНХУ і НКЗемам СССР даныя аб пасеўных плошчах зернавых культур і сланечніка падлягаюць зацверджанню Цэнтральнай Дзяржаўнай Камісіяй па вызначэнню ўраджайнасці пры СНК СССР.

Старшыня Совета Народных
Камісараў Саюза ССР *В. Молатаў.*

Кіраўнік спраў Совета Народных
Камісараў Саюза ССР *І. Мірошнікаў.*

# Аб учоце пасеўных плошчаў у 1935 годзе

*Пастанова Совета Народных Камісараў БССР*
*і Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б*

Далейшы рост калектывізацыі, прыняцце новага сталінскага калгаснага статута, які з'яўляецца фактарам далейшага ўпарадкавання першапачатковага ўчоту ў калгасах, а таксама неабходнасць паскарэння выдачы дзяржаўных актаў на карыстанне зямлёй калгасам навечна і пастаўленыя партыяй і ўрадам задачы планамернага пераходу на пастаянныя севазвароты патрабуюць паляпшэння пастаноўкі ўчоту пасеўных плошчаў. Выходзячы з гэтага, Совет Народных Камісараў БССР і ЦК КП(б)Б лічыць неабходным пасля сканчэння веснавой сяўбы 1935 г. правесці поўны ўчот усіх пасеваў як па соўгасах і калгасна-сялянскаму сектару, так і па дзяржаўных і кааперацыйных арганізацыях і размеркаванне іх па соцсектарах і катэгорыях гаспадарак.

У сувязі з гэтым Совет Народных Камісараў БССР і ЦК КП(б)Б пастанаўляюць:

1. Абавязаць кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчота БССР і яго раённую і ўчастковую інспектуру на мясцах у адпаведнасці з праграмай ЦУНХУ Дзяржплана СССР, на падставе заключнай справаздачы сельсовета па пасеўных плошчах індывідуальнага карыстання і пасевах дзяржкааперацыйных устаноў і арганізацый, таксама калгасаў, соўгасаў, каапгасаў і ОРС'аў устанавіць дакладны размер пасеўнай плошчы яравых пасеваў 1935 года і плошчы азімых пасеву восені 1934 года ў разрэзе сельсоветаў па катэгорыям гаспадарак згодна оргплана і інструкцыі ЦУНХУ Дзяржплана СССР.

2. Абавязаць Наркамзем. Упоўнаркамсоўгасаў, Белкаапсаюз, Упоўнаркамлес, а таксама іншыя наркаматы, ведамствы і арганізацыі даць падпарадкаваным ім гаспадаркам, якія маюць пасеўныя плошчы ўказанне аб прадстаўленні па ўстаноўленай форме не пазней пяці дзён пасля сканчэння пасеўнай кампаніі яравых органам народна-гаспадарчага ўчоту на мясцах заключнай справаздачы або пасеўных плошчах азімых і яравых.

3. Ускласці адказнасць за прадстаўленне ва ўстаноўлены тэрмін заключнай справаздачы, аб пасеўных плошчах:

а) па гаспадарках аднаасобнікаў, прысядзібных пасевах калгаснікаў, рабочых і служачых, а таксама пасеўных плошчаў дзяржкааперацыйных устаноў і арганізацый на сельсоветы праз упаўнаважаных сельсоветаў адпаведным участковым інспектарам наргасучоту;

б) па аграмаджаных пасевах калгасаў—на старшынь калгасаў—адпаведным участковым інспектарам наргасучоту;

в) па соўгасах, каапгасах і ОРС'ах—на дырэктароў гэтых гаспадарак—непасрэдна адпаведным раённым інспектарам наргасучоту.

4. У мэтах грамадскай праверкі правільнасці даных аб пасеўных плошчах аднаасобнага карыстання абавязаць РВК і сельсоветы абгаварыць заключныя справаздачы па гэтых гаспадарках

на прэзідыумах сельсоветаў і шырокіх сходах працоўных аднаасобнікаў і калгаснікаў.

5. Папярэдзіць дырэктароў соўгасаў, каапгасаў, ОРС'аў, леспрамгасаў, старшынь калгасаў, кіраўнікоў дзяржаўных, каапэрацыйных устаноў і арганізацый, маючых пасеўныя плошчы, а таксама старшынь сельсоветаў, што яны нясуць персанальную адказнасць за своечасовае прадстаўленне і правільнасць даных аб пасеўных плошчах іх гаспадарак.

6. Даручыць органам народна-гаспадарчага ўчоту і міжраённым камісіям па ўраджайнасці ў тых выпадках, калі праверка асобных аб'ектаў (калгасаў, устаноў, арганізацыі зямельных таварystваў, сельсоветаў у цэлым) будзе выяўлена заблытанасць справаздачных даных, а таксама ў тых выпадках, калі заблытанасць становішча землекарыстання або ўчоту не дае магчымасці правільна вызначыць размеры пасеўных плошчаў адпаведных аб'ектаў, — патрабаваць ад райвыканкомаў правядзення выбарачных інструментальных абмераў. Указаныя абмеры павінны быць забяспечаны райвыканкомамі неабходным інструментарыем, кадрамі і належным арганізацыйна-палітычным кіраўніцтвам, з аднясеннем выдаткаў па абмеру пасеваў калгасна-сялянскага сектара на райвыканкомы, а па пасевах соўгасаў і ўстаноў—на кошт апошніх.

7. Абавязаць Наркамзем: а) поўнасцю забяспечыць бланкамі заключнай справаздачнасці: калгасы—формай № 4 (калгаснай справаздачнасці), сельсоветы для калгаснікаў—формай № 17-а (сельсовецкага ўчоту) і па гаспадарках устаноў і арганізацый, рабочых і служачых сельскіх мясцовасцей і іншага насельніцтва, неабкладаемага сельскагаспадарчым падаткам, і аднаасобнікаў—формай № 17-б (сельсовецкага ўчоту);

б) забяспечыць у кожным калгасе работу кантрольна-ўчотных камісій па прыёмцы работы з абавязковым складаннем актаў пасля сканчэння сяўбы калгаса па форме № 28 нізавога ўчоту калгасаў.

8. Устанавіць, што асобы, непрадставіўшыя ва ўстаноўлены тэрмін заключных справаздач, а таксама прадставіўшыя няправільныя даныя аб размерах фактычна засеянай плошчы яравых 1935 г., плошчы азімых пасеву восені 1934 г. (за вылікам пацярпеўшай ад стыхійных бядот, згодна актаў Дзяржстраха) і плошчы шматгадовых траў пасеву мінулых гадоў, прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці.

Старшыня СНК БССР *Галадзед.*

Сакратар ЦК КП(б)Б *Гікало.*

---

## Совет народных камісараў БССР.

*5-га чэрвеня 1935 г. № 185* *гор. Менск*

### Усім старшыням горсаветаў і местсаветаў.

Для правільнага і своечасовага ўчота жывёлы і пасеўных плошчаў у гарадах і паселішчах гародскога тыпа, Совет народных камісараў БССР ў адпаведнасці з п. 4 пастановы СНК БССР за № 823 ад 29 мая 1935 г. „Аб правядзенні ўчота гаспадарак жывёлы ў чэрвені-ліпені 1935 г.". прапануе Вам забяспечыць аперацыйнае кіраўніцтва і кантроль за правядзеннем ўчота, а таксама вылучыць у распараджэнне органаў Наргасучота праверанах і тэхнічна падрыхтаваных работнікаў на ўвесь час правядзення ўчота аслабаніўшы іх на гэты час ад работы ў сваіх установах.

Нам. старшыні СНК БССР *І. Любовіч.*

Кіраўнік спраў СНК БССР *А. Лук'янчык.*

---

## Пастанова № 773

## Совета Народных Камісараў БССР

*20 мая 1935 г.* *г. Менск*

### Аб дазволе Райупаўкамзаг СНК сабраць звесткі аб наліччы ў калгасах на 1/VI-г.г. маладняка-жарабят нараджэння 1934 года

У мэтах прадстаўлення калгасам ільгот па збожжа пастаўкам за вырашчыванне маладняка-жарабят, нарадзіўшыхся ў 1934 г. і захаваўшыхся на 1/VI-1935 г., Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Дазволіць Райупаўкамзаг СНК сабраць ад калгасаў звесткі аб нарадзіўшыхся ў 1934 г. у калгасах жарабят і захаваўшыхся на 1-е чэрвеня 1935 г.

2. Абавязаць старшынь праўленняў калгасаў і старшынь с/советаў не пазней 5-га чэрвеня выслаць Райупаўкамзаг СНК паказаныя звесткі аб наяўнасці ў калгасах (у абагуленым стадзе) жарабят, нарадзіўшыхся ў 1934 г.

Старшыня Совета Народных Камісараў БССР *М. Галадзед.*

Кіраўнік спраў СНК БССР *І. Лук'янчык.*

---

„Зацвярджаецца“
28 мая 1935 года

Народны Камісар Фінансаў
БССР *І. Кудзелько.*

Нач. КНГУ БССР
*Владзімірскі.*

# План

## Правядзення кампаніі па ўчоту аб'ектаў абкладання сельгаспадаткам на 1935 год

Да пачатка ўчота аб'ектаў абкладання павінна быць праведзена шырокая масавая работа па растлумачэнню закона па сельгаспадатку і задач точнага ўчота гаспадарак насельніцтва і жывёлы і ўсіх іншых аб'ектаў абкладання, а таксама аб адказнасці насельніцтва і службовых асоб за недаўчот і ўкрыццё аб'ектаў абкладання. Масавая работа праводзіцца пад непасрэдным кіраўніцтвам райвыканкомаў, гарадскіх і сельскіх советаў шляхам шырокага асвятлення пытання ўчота і сельгаспадатка ў друку, правядзення спецыяльных сходаў калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў, гутарак, радыодакладаў і г. д. і распаўсюджвання спецыяльнай агітлітаратуры.

Уся работа па ўчоту праводзіцца ў поўнай адпаведнасці з законамі і інструкцыямі па сельгаспадатку і па ўчоту жывёлы і гаспадарак у наступным парадку:

| Від работы | Хто праводзіць работу | Тэрмін выканання |
|---|---|---|
| 1. Правядзенне куставых нарад фінансавых работнікаў . . | НКФ БССР | У Менску 1-2 чэрвеня. У Гомелі 2-3 чэрвеня |
| 2. Арганізацыя раённых падатковых камісій . . . . | Праект падае райфа і зацвярджае прэзідыум РВК | Неадкладна пасля выдання пастановы Ўрада БССР аб сельгаспадатку |
| 3. Вылучэнне рэгістратараў для правядзення ўчота гаспадарак, жывёлы, пасеваў і садоў у гарадах і паселішчах гарадскога тыпа, а таксама іх інструктаж | Інспектар НГУ падае спіс на зацверджанне Прэзідыуму РВК | Неадкладна пасля выдання пастановы Ўрада БССР |

| Від работы | Хто праводзіць работу | Тэрмін выканання |
|---|---|---|
| 4. Праверка і зацверджанне персанальнага склада сельскіх падатковых камісій . . . | Праект падае Райфа сумесна з сельскімі советамі на зацверджанне Прэзід. РВК | На пазней 3-га чэрвеня |
| 5. Вылучэнне ўпаўнаважаных і прымацаванне іх да кожнага раёна на час учота аб'ектаў абкладання . . . . . | Праект падае НКФ і КНГУ на зацверджанне СНК БССР | Не пазней перша-га чэрвеня |
| 6. Вылучэнне спецыяльных упаўнаважаных па ўчоту аб'ектаў і прымацавання іх да кожнага сельсовета . . . . | Праект падаюць Райфа і райінспектар НГУ на зацверджанне Прэзідыума РВК | Да трэцяга чэрвеня г. г. |
| 7. Правядзенне спецыяльных інструкцыйных раённых нарад з удзелам сельсоветаў і фінактыва . . . . . | Райфа і інспектар НГУ | 4-5 чэрвеня г. г. |
| 8. Правядзенне ўчота аб'ектаў абкладання і абмеркаванне вынікаў ітогаў на пленумах сельсоветаў . . . . . | Сельсоветы пры непасрэдным кантролі і кіраўніцтве райфа і інспектара НГУ | Учот пачаць неадкладна пасля раённай нарады і акончыць не пазней 22 чэрвеня |
| 9. Правядзенне ўчота гаспадарак, жывёлы, пасеваў і садоў у гарадах і паселішчах гарадскога тыпа . . . . . | Гарадская і раённая інспектуры НГУ | Скончыць не пазней 20-га чэрвеня |
| 10. Правядзенне выбарачных кантрольных праверак спецыяльнымі брыгадамі, шляхам абхода двароў і падліка жывёлы ў натуры . . . . . | Райфа | Пачаць неадклад. пасля сканчэння ўчота па с/с і абмеркав. пленума с/с вынікаў учота і закончыць не пазней 27 чэрвеня |

| Від работы | Хто праводзіць работу | Тэрмін выканання |
|---|---|---|
| 11. Арганізацыя спецыяльных брыгад па выбарачнай праверцы ўчота і зацверджанне райфінаддзелам персанальнага склада гэтых брыгад і іх інструктаж. | Райфа | Не пазней 10-га чэрвеня |
| 12. Арганізацыя спецыяльных брыгад па кантрольным абходам па лініі органаў КНГУ і зацверджанне кіраўнікоў гэтых брыгад райвыканкомам і іх інструктаж . . . . | Інспектура НГУ | Не пазней 15-га чэрвеня |
| 13. Правядзенне катрольных абходаў спецыяльнымі брыгадамі ў сельскай мясцовасці, у гарадах і паселішчах гарадскога тыпа. | Інспектар НГУ | Пачаць неадкладна пасля перадачы Райфа зацверджаных ітогавых зводак па кожнаму с/с. Закончыць кантрольныя абходы не пазней 5-га ліпеня |
| 14. Правядзенне райфінаддзелам учот аб'ектаў абкладання па ўсім калгасам. . . . | Райфа | Скончыць не пазней 20-га чэрвеня г. г. |
| 15. Правядзенне кантрольнай праверкі органамі НГУ ва ўсіх калгасах. . . . . | Інспектар НГУ | Па меры атрымання ад райфа пагаспадарчых картак калгасаў |
| 16. Забеспячэнне атрымання інспектурай НГУ ад усіх прадпрыемстваў і арганізацый звестак аб колькасці жывёлы, а ад соўгасаў і каапгасаў звестак аб колькасці жывёлы і гаспадарак рабочых і служачых, знаходзячыхся на тэрыторыі соўгасаў і каапгасаў . . . . | Інспектар НГУ | Атрымаць усе даныя не пазней пятага чэрвеня |
| 17. Правядзенне кантрольнай праверкі ў дзяржаўных і кааперацыйных гаспадарках . . | Інспектар НГУ | Не пазней 10-га чэрвеня |

| Від работы | Хто праводзіць работу | Тэрмін выканання |
|---|---|---|
| 18. Даклад вынікаў учота і кантрольных абходаў Прэзідыуму Райвыканкома. . . . | Райфа і інспектар НГУ | Не пазней 15-га ліпеня |
| 19. Прадстаўленне ў КНГУ і НКФ зводкі з вынікамі ўчота гаспадарак і жывёлы і матэрыяламі кантрольных абходаў . | Райфа і інспектар НГУ | Не пазней 20 ліпеня |
| 20. Прадстаўленне ітогаў учота гаспадарак і жывёлы па БССР у цэлым Соўнаркому БССР . | КНГУ і НКФ БССР | 3-га жніўня |
| 21. Разгляд і зацверджанне раённай падатковай камісіяй ( а ў неабходных выпадках РВК) спісаў маламоцных гаспадарак, размераў рынычных і неземляробчых даходаў, спісаў кулацкіх гаспадарак, гаспадарак, абкладаемых у падвойным размеры і інш. . . . . | Прадстаўляе Райфа на зацверджанне Прэзідыума РВК або раённай падатковай камісіі па належнасці | З першага па 10 ліпеня |
| 22. Налічэнне падатка па калгасам, выпіска і ўручэнне ім плацежных паведамленняў. . . | Райфа | Не пазней 15-га ліпеня |
| 23. Налічэнне падатка па калгаснікам і аднаасобнікам выпіска і ўручэнне ім плацёжных паведамленняў . . . . . | Райфа з удзелам сельсоветаў | Не пазней 1-га жніўня |
| 24. Прадстаўленне ў НКФін папярэдніх вынікаў учота аб'ектаў. | Райфа | Не пазней 20 ліпеня |
| 25. Прадстаўленне ў НКФінканчатковых зводак аб выніках налічэння сельгаспадатка . . | Райфа | Не пазней 20-га жніўня |
| 26. Прадстаўленне інфармацый аб ходзе ўчота аб'ектаў у НКФін і КНГУ . . . . . | Райфа і інспектар НГУ | Кожныя пяць дзён, пачынаючы з 5 чэрвеня і да сканчэння ўчота |

## Пастанова № 389

## Цэнтральнага кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчота дзяржплана СССР.

*20-га мая 1935 г.*

Аб устанаўленні для калгасаў і райземаддзелаў трохразовай справаздачнасці аб ходзе абмалотаў на перыяд уборачнай кампаніі 1935 года.

Падстава: Распараджэнне СНК СССР ад 10-га мая 1935 г. за № 203—191.

Зацверджаную на 1935 г. для 10—15% калгасаў форму дэкаднай справаздачнасці № 14 „Аб ходзе абмалотаў збожжавых культур“ распаўсюджыць на ўсе калгасы, як справаздачнасць прадстаўляемую ў Райза, а калгасамі абслугоўваемымі МТС, таксама і ў МТС, ў наступныя дыферэнцыраваныя па Рэспублікам, абласцям і краям, тэрміны:

1. Па Узбекскай, Туркменскай і Таджыкскай ССР, Сталінградскаму, Азова-Чорнаморскаму і Паўночна-Каўказскаму краям, Крымскай АССР, Паўднёва-Казакстанскай абласці, Кара-Калпакскай АССР, Днепрапетроўскай і Адэскай абласцям, АМССР і Азербайджанскай ССР—20/VII, 30/VIII і 20/X.

2. Па Чэлябінскай абласці, Башкірскай і Татарскай АССР. Куйбышэўскаму краю, Арэнбурскай, Курскай і Варонежскай абласцям, Саратоўскаму краю, Кіргізскай АССР, Кіеўскай, Чэрнігаўскай, Вінніцкай, Харкаўскай і Данецкай абласцям, ССР Грузіі і Арменіі і па ўсім астатнім абласцям Казакскай АССР (апрача Паўднёва-Казакстанскай абласці) — 30/VII, 30/VIII і 10/IX.

3. Па БССР, Заходняй, Калінінскай, Маскоўскай і Іванаўскай абласцям, Горкаўскаму і Кіраўскаму краям і Свердлоўскай абласці,—10/VIII, 30/VIII, і 30/IX.

4. Па Паўночнаму краю Карэльскай АССР. Ленінградскай і Омскай абласцям, Заходня-Сібірскаму, Краснаярскаму, Усходне-Сібірскаму і Дальне-Усходняму Краям і Якуцкай АССР—30/VIII, 30/IX і 20/X.

Райземаддзелы праз 5 дзён пасля кожнага з паказаных вышэй тэрмінаў прадстаўляць у обл. (край) ЗУ і старшыні Межрайкамісіі па апрадзяленню ўраджайнасці зводны адчот па раёну ў цэлым па ф. № 18 з указаннем ліку калгасаў, ўключаных у зводку, з данымі на справаздачны тэрмін і з данымі на папярэдні тэрмін і з дадаткам справаздачы аб ходзе абмалота збожжавых культур (па гэтай-жа форме) па калгасам, вылучаным для кантроля ўчота абмалотаў (10—15% калгасаў).

Увага: Калгасы, вылучання для кантроля ўчота абмалотаў у парадку 10—15% выбаркі, прадстаўляюць справаздачнасць па ф. № 14 падэкадна, згодна раней устаноўленым тэрмінам.

Обл. (край) ЗУ прадстаўляюць зводную справаздачу па вобласці (краю) у НКЗ СССР обл. (край) упаўнаважанаму дзяржкамісіі па апрадзяленню ўраджайнасці праз 10 дзён пасля кожнага з указаных вышэй тэрмінаў.

Абавязаць НКЗ СССР забяспечыць усе калгасы і Райза бланкамі справаздачнасці аб ходзе абмалотаў збожжавых культур і забяспечыць правядзенне інструктажа на мясцох па яе запаўненню.

Нам. Начальніка Цэнтральнага Кіраўніцтва
Народна-Гаспадарчага ўчота Дзяржплана СССР *Папоў.*

---

## Усім загадчыкам Райземаддзелаў і райінспектарам Наргасучота

З мэтай атрымання дакладных даных аб рэзультатах абмалотаў у калгасах, неабходных для скарыстання ў якасці кантрольных матэрыялаў пры апрадзяленні ўраджайнасці (у 1935 годзе)—арганізуецца кантроль учота абмалотаў ва ўсіх раёнах у паказанай колькасці калгасаў згодна далучаемага спіса.

НКЗем і КНГУ БССР прапануюць:

1. Загадчыкам Райза сумесна з Райінспектарамі Наргасучота да 10/VI—адабраць канкрэтныя калгасы ў вызначанай колькасці для кантроля ўчота абмалотаў.

Спісы выдзеленых калгасаў прадставіць на зацверджанне міжраённых камісій па ураджайнасці да 15/VI г.г.

2. У лік адбіраемых калгасаў уключыць:

а) калгасы, у якіх будзе вытварацца вымярэнне ўраджая на карні;

б) калгасы, у якіх праводзіцца нагляданне за відамі на ўраджай участковымі інспектарамі Наргасучота;

в) пры адборы астатняй часткі калгасаў палажыць ў аснову арганізацыйна-гаспадарчае становішча калгаса, як то: забяспечанасць малатарнямі, рухавікамі, уборачным інвентаром магчымасць арганізаваць добраякасную ўборку, абмалот і правільны яго ўчот.

3. Кантроль учота абмалотаў, які будзе праводзіцца органамі УНХУ ускласці на ўчастковых інспектароў УНХУ, а для астатняй часткі калгасаў павінна быць мабілізавана дастатковая колькасць работнікаў з раённага актыва, (з разліку—1 кантралёр на два калгасы).

Колькасць абслугоўваемых калгасаў участковай інспектурай і райземаддзелаў паказана ў далучаемым спісу.

4. Ва ўсіх калгасах, выдзеленых для кантроля ўчота абмалотаў, усе палявыя ўчасткі належыць загадзя замацаваць да апрадзяленых токаў—гумнаў.

Учот абмалота вядзецца па кожнаму ўчастку, занятаму апрадзялёнай культурай.

Асаблівую ўвагу належыць удзеліць прывозцы намалочанага зярна да плошчы, з якой яно намалочана.

5. Справаздачнасць аб ходзе абмалота культур па ўсім вызначаным калгасам у раёне вядзецца Райземаддзеламі.

Зводка аб ходзе абмалотаў (у разрэзе кожнага калгаса) прадстаўляецца МДК і НКЗему кожнага 1-га, 11 і 21-га чысла м-ца з пачатку абмалота і да 1-га снежня г/г.

Пры дасылцы звестак аб абмалоце па тым культурам, па якім к 1-му снежня абмалот ня будзе закончан, у справаздачы належыць зрабіць адзнаку: „абмалот не закончан".

6. Для недапушчэння недакладнасці ў прывязцы намалочанага зярна к плошчы, у паведамляемых калгасамі дэкадных звестках аб ходзе абмалотаў—уключаюцца толькі тыя культуры, па якім на даным участку (полі) абмалот вытваран поўнасцю.

7. Загадчыкам Райза сумесна з Райінспектурай НГУ ў адпаведнасці з даным распараджэннем правесці з 10-га ліпеня па 1-ае жніўня г/г. пры ўдзеле МДК інструкцыйныя нарады з вылучанымі кантралёрамі, участковымі інспектарамі НГУ, старшынямі і рахункаводамі калгасаў, адабраных для кантроля ўчота абмалотаў.

Календарны тэрмін правядзення нарады ў кожным раёне зацвярджаецца старшынёй МДК.

8. Загадчыкам Райза і дырэктарам МТС у мэтах паспяховага правядзення абмалотаў абавязкова забяспечыць вызначаныя калгасы (для ўчота абмалотаў) упаўне спраўным уборачным інвентаром, малатарнямі, рухавікамі і зернаачышчальнымі машынамі.

9. НКЗем і КНГУ БССР, надаючы выключнае гаспадарча-палітычнае значэнне правільнай уборцы, абмалоту і яго ўчоту,—асабістую адказнасць за добраякаснае правядзенне гэтай работы і своечасовае прадстаўленне дакладных звестак ускладае на загадчыкаў Райза і Райінспектароў НГУ.

10. Начальніку Учотна-Стат. Аддзела НКЗБ тав. Сокалаву забяспечыць Райземаддзелы ў дастатковай колькасці ўчотнымі бланкамі і арганізаваць своечасовае прадстаўленне справаздач аб ходзе абмалотаў па БССР.

11. Пры пачатку ўборкі і абмалотаў камандыраваць у 3-4 раёны адказнага работніка для праверкі пастаноўкі арганізацыі ўчота кантрольных абмалотаў (на мясцох).

Нарком землярobства БССР *Бенэк*

Нач. Кіраўніцтва НГУ БССР *Владзімірскі*

## СПІС

калгасаў па раёнам для правядзення кантроля ўчота абмалотаў

| | Назва раёнаў | Усяго падкантрольных калгасаў | У тым ліку | |
|---|---|---|---|---|
| | | | Будзе абслужана інспектурай УНХУ | Будзе абслужана Райза |
| | **Мазырская М.Д.К.** | | | |
| 1 | Брагінскі | 11 | 6 | 5 |
| 2 | Хойніцкі | 14 | 8 | 6 |
| 3 | Мазырскі | 13 | 6 | 7 |
| 4 | Тураўскі | 8 | 4 | 4 |
| 5 | Петрыкаўскі | 11 | 6 | 5 |
| 6 | Камарынскі | 9 | 6 | 3 |
| 7 | Нараўлянскі | 14 | 8 | 6 |
| 8 | Ельскі | 12 | 6 | 6 |
| 9 | Жыткавіцкі | 9 | 4 | 5 |
| 10 | Лельчыцкі | 8 | 4 | 4 |
| 11 | Даманавіцкі | 14 | 8 | 6 |
| 12 | Копаткевіцкі | 12 | 6 | 6 |
| | **Бабруйская М.Д.К.** | | | |
| 13 | Бабруйскі | 16 | 8 | 8 |
| 14 | Копыльскі | 14 | 6 | 8 |
| 15 | Чырвона-Слабодскі | 10 | 4 | 6 |
| 16 | Слуцкі | 16 | 6 | 10 |
| 17 | Старобінскі | 12 | 6 | 6 |
| 18 | Любанскі | 8 | 4 | 4 |
| 19 | Грэскі | 12 | 6 | 6 |
| 20 | Парыцкі | 10 | 6 | 4 |
| 21 | Клічаўскі | 10 | 6 | 4 |
| 22 | Стара-Дарожскі | 10 | 4 | 6 |
| 23 | Глускі | 14 | 8 | 6 |
| 24 | Кіраўскі | 12 | 6 | 6 |
| 25 | Асіпавіцкі | 12 | 6 | 6 |
| | **Менская М.Д.К.** | | | |
| 26 | Бягомльскі | 8 | 4 | 4 |
| 27 | Плешчаніцкі | 8 | 4 | 4 |
| 28 | Лагойскі | 12 | 6 | 6 |
| 29 | Заслаўскі | 11 | 4 | 7 |
| 30 | Менскі | 17 | 6 | 11 |
| 31 | Дзержынскі | 16 | 6 | 10 |
| 32 | Уздзенскі | 11 | 4 | 7 |
| 33 | Пухавіцкі | 13 | 4 | 9 |
| 34 | Чэрвеньскі | 10 | 4 | 6 |
| 35 | Бярэзінскі | 10 | 6 | 4 |
| 36 | Смалявіцкі | 12 | 6 | 6 |
| 37 | Барысаўскі | 16 | 8 | 8 |
| 38 | Рудзенскі | 10 | 4 | 6 |
| 39 | Халопеніцкі | 8 | 4 | 4 |
| | **Аршанская М.Д.К.** | | | |
| 40 | Аршанскі | 20 | 8 | 12 |
| 41 | Багушэўскі | 11 | 4 | 7 |
| 42 | Дубровенскі | 13 | 8 | 5 |
| 43 | Горацкі | 10 | 4 | 6 |

| | Назва раёнаў | Усяго падкантрольных калгасаў | У тым ліку | |
|---|---|---|---|---|
| | | | Будзе абслужана інспектурай УНХУ | Будзе абслужана Райза |
| 44 | Мсціслаўскі | 11 | 6 | 5 |
| 45 | Дрыбінскі | 13 | 6 | 7 |
| 46 | Шклоўскі | 13 | 8 | 5 |
| 47 | Талачынскі | 12 | 6 | 6 |
| 48 | Круглянскі | 9 | 4 | 5 |
| 49 | Крупскі | 12 | 6 | 6 |
| 50 | Сенекскі | 10 | 4 | 6 |
| 51 | Чашніцкі | 12 | 6 | 6 |
| 52 | Лепельскі | 14 | 6 | 8 |
| | **Магілеўская М.Д.К.** | | | |
| 53 | Бельніцкі | 13 | 4 | 9 |
| 54 | Магілеўскі | 23 | 10 | 13 |
| 55 | Чаускі | 18 | 8 | 10 |
| 56 | Быхаўскі | 18 | 8 | 10 |
| 57 | Журавіцкі | 9 | 6 | 3 |
| 58 | Прапойскі | 9 | 4 | 5 |
| 59 | Чэрыкаўскі | 11 | 6 | 5 |
| 60 | Краснапольскі | 12 | 6 | 6 |
| 61 | Крычаўскі | 9 | 4 | 5 |
| 62 | Клімавіцкі | 15 | 10 | 5 |
| 63 | Касцюковіцкі | 15 | 10 | 5 |
| 64 | Хоцімскі | 10 | 6 | 4 |
| | **Віцебская М.Д.К.** | | | |
| 65 | Асвейскі | 9 | 4 | 5 |
| 66 | Бешанковіцкі | 14 | 8 | 6 |
| 67 | Ветрынскі | 11 | 6 | 5 |
| 68 | Гарадоцкі | 13 | 6 | 7 |
| 69 | Дрысенскі | 13 | 6 | 7 |
| 70 | Лёзненскі | 14 | 6 | 8 |
| 71 | Мехаўскі | 10 | 6 | 4 |
| 72 | Полацкі | 12 | 6 | 6 |
| 73 | Расонскі | 13 | 6 | 7 |
| 74 | Суражскі | 13 | 6 | 7 |
| 75 | Сіроцінскі | 12 | 6 | 6 |
| 76 | Ушацкі | 12 | 6 | 6 |
| 77 | Віцебскі | 14 | 6 | 8 |
| | **Гомельская М.Д.К.** | | | |
| 78 | Рагачоўскі | 20 | 8 | 12 |
| 79 | Кармянскі | 17 | 6 | 11 |
| 80 | Жлобінскі | 22 | 8 | 14 |
| 81 | Буда Кашалеўскі | 11 | 4 | 7 |
| 82 | Уваравіцкі | 10 | 8 | 2 |
| 83 | Чачэрскі | 9 | 6 | 3 |
| 84 | Свецілавіцкі | 7 | 6 | 1 |
| 85 | Веткаўскі | 9 | 6 | 3 |
| 86 | Гомельскі | 10 | 6 | 4 |
| 86 | Рэчыцкі | 21 | 8 | 13 |
| 88 | Добрушскі | 7 | 4 | 3 |
| 89 | Церахоўскі | 12 | 6 | 6 |
| 90 | Лоеўскі | 10 | 6 | 4 |
| | Усяго па БССР | 1100 | 536 | 564 |

## Загад № 117

### Па цэнтральнаму кіраўніцтву наргасучота дзяржплана СССР

*ад 23 мая 1935 г.*

У дадатак да загада № 104 ад 9 мая 1935 г. за добрую арганізацыю работы па правядзенню Усесаюзнага бібліятэчнага перапісу, добрую якасць сабраных матэрыялаў і своечасовае іх прадстаўленне ў вышэйстаячыя органы, загадваю прэміраваць:

1. Кіраўніка перапісу бібліятэк па БССР т. Шындлера—300 р.

2. Нач. Соцкультсектара Адэсскага Абл. УНХУ т. Козьма-Дзем'янаўскага—300 р.

Нам. начальніка ЦУНХУ
Дзяржплана СССР *Папоў.*

---

## Загад № 200

### Па кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 13-га мая 1935 года.*

Згодна прадстаўленым звесткам раённымі інспектарамі Наргасучота, у 336 сельсоветах з правераных 1184 сельсоветаў первічны ўчот зрываецца, а гэтым самым немагчыма будзе правесці чэрвеньскі сельгаспадатковы ўчот.

Асобныя райінспектуры, як Глуская, Лепельская, Веткаўская і Дрысенская займаюцца толькі фіксацыяй зрыва ўчота, але ніякіх мер не прымаюць для хутчэйшага наладжвання первічнага ўчота ў сельсоветах, а другія інспектуры лічаць, што дастаткова вынясення пастановы для наладжвання ўчота і гэтым завядзенне ўчота ў сельсоветах будзе забяспечана.

Не гледзечы на неаднаразовыя мае ўказанні аб неабходнасці забеспячэння поўнага ўвядзення первічнага ўчота ў сельсоветах паасобныя райінспектуры не ўсвядомілі важнасць гэтай справы, асабліва ў забеспячэнні своечасовага і добраякаснага правядзення чэрвеньскага ўчота аб'ектаў абкладання селгаспадаткам.

За ігнараванне важнейшай справы первічнага ўчота ў сельсоветах абвясціць суровую вымову з папярэджаннем і занясеннем у працоўны спіс райінспектару Глускага раёна т. Дамброўскаму.

Папярэдзіць усіх раённых і ўчастковых інспектароў, што калі імі не будуць прыняты патрэбныя меры для поўнага наладжвання первічнага ўчота да 1-га чэрвеня, да іх будуць прыняты больш суровыя меры.

За поўнае ўвядзенне ўчота ва ўсіх сельсоветах раёна аб'яўляю благадарнасць інспектару Чашніцкага раёна т. Ракецкаму.

Начальнік кіраўніцтва Народна-
гаспадарчага ўчота БССР—*Владзімірскі.*

---

# II. РАБОТА КНГУ І ЯГО СІСТЭМЫ.

А. ПАПОЎ,
Нам. нач. ЦУНХУ Дзяржплана СССР·

## Задачы ўчастковай інспектуры наргасучота

Па пастанове ЦК ВКП(б) ад 16/V і СНК СССР ад 4/III-1934 г. у сістэме органаў народна-гаспадарчага ўчота створана новае звяно—участковая інспектура ў колькасці 10 тыс. чал. Калі раней нізавым органам наргасучота была раённая інспектура, лік работнікаў якой па 2500 раёнам СССР складаў 5500 чал., то зараз кожнаму адміністрацыйнаму раёну будзе дадзена яшчэ ад двух да пяці ўчастковых інспектароў. Такім чынам сістэма органаў наргасучота атрымоўвае ўзросшы і вельмі разгалінены нізавы апарат.

Па пастанове СНК ад 17/VIII-1934 г. на ўчастковага інспектара ўскладаюцца наступныя асноўныя абавязкі:

а) арганізацыя і правядзенне робот па суцэльным і выборачным перапісам і іншым учотна-статыстычным аперацыям, а таксама арганізацыя кантрольных абходаў, кантрольных абмераў і іншых кантрольных статыстычных работ;

б) кантроль за пастаноўкай учотна-статыстычнай работы у сельскіх советах і інструктаванне апошніх;

в) кантроль за пастаноўкай учотна-статыстычнай работы ў арганізацыях і прадпрыемствах, у асаблівасці ў калгасах, знаходзячыхся на тэрыторыі ўчастка і інструктаванне іх як непасрэдна, гэтак і праз адпаведныя раённыя арганізацыі, МТС і г. д.

г) праверка правільнасці справаздачных звестак і матэрыялаў, прадстаўляемых раённым органам сельсоветамі, калгасамі будаўніцтвамі, школамі, бальніцамі і іншымі прадпрыемствамі і арганізацыямі, выяўленне рознага роду скажэнняў і неверных учотных даных і прыняцце мер да іх выпраўлення;

д) выяўленне бюракратычных іскрашчэнняў у пастаноўцы ўчота і справаздачнасці сельсоветаў, калгасаў і іншых прадпрыемств і арганізацый і барацьба з гэтымі ізвращчэннямі.

Стварэнне ўчастковай інспектуры ўносіць істотныя змены прынцыповага характару ў арганізацыю дзяржаўнага ўчота і статыстыкі.

У сучасны момант работа ЦУНХУ і яго органаў працякае у асноўным у двух напрамках: устанаўляючы сістэму і парадак перыядычнай справаздачнасці ва ўсіх дзяржаўных і гаспадарчых установах, а таксама ў прадпрыемствах краіны, ЦУНХУ праз

гэту аперацыйную справаздачнасць атрымоўвае неабходныя ўчотна-статыстычныя матэрыялы, якія і абагульвае ў народна-гаспадарчым маштабе. Такім чынам органы ЦУНХУ выконваюць перш за ўсё зводна-статыстычную работу. Аднак, не ўсе неабходныя матэрыялы можна атрымаць шляхам бягучай перыядычнай справаздачнасці альбо з гадавых справаздач прадпрыемств. Пагэтаму ЦУНХУ самастойна праводзіць рад спецыяльных учотна-статыстычных работ перапіснага і абследвацельскага характару. Гэта выклікаецца таксама і тым, што па цэламу раду галін народнай гаспадаркі бягучая справаздачнасць не дае суцэльнага ахопу ўсіх прадпрыемств. Так напрыклад, нават у прамысловасці дзе бягучая і гадавая справаздачнасць больш усяго налажаны дзе маецца найбольш моцны ўчотны апарат, да апошняга часу, бягучым учотам не была ахоплена вялікая колькасць сярэдніх і дробных промпрадпрыемств, падпарадкаваных мясцовым органам.

Маючы нізавы апарат у 10 тыс. чал., ЦУНХУ зможа ўзмацніць уласныя статыстычныя работы, хутчэй і лепш праводзіць перапісныя і абследавацельскія аперацыі.

Велізарнае значэнне апарата ўчастковай інспектуры для хуткага збірання актуальнага статыстычнага матэрыяла ўжо праверана на практыцы. У лістападзе 1934 г. ЦУНХУ прадпрыняла экспедыцыйным шляхам абследванне размеркавання даходаў у калгасах за 1934 г. Былі распрацаваны і разасланы на месцы бланкі і інструкцыі, па якім участковыя інспектары сабралі адпаведны матэрыял. Усяго было пераслана ў ЦУНХУ 150 тыс. запоўненых бланкаў, 83 тыс. з якіх былі распрацаваны і апублікаваны ў дакладзе т. Молатава і выступленні т. Межлаўка на VII Усесаюзным З'ездзе Советаў.

Стварэнне ўчастковай інспектуры будзе садзейнічаць узмацненню барацьбы за справаздачную дысцыпліну прадпрыемства і арганізацый, якая ў многіх выпадках вядзецца яшчэ зусім слаба. Бягучыя справаздачныя даныя паступаюць вельмі марудна, а іншы раз і зусім не паступаюць. Асабліва вялікая роля ўчастковых інспектароў у справе кантроля справаздачных даных і барацьбы за правільную лічбу. Органы НКЗема, напрыклад, штогодна збіраюць так званую заключную справаздачнасць аб пасеўных плошчах. Гэта аперацыя прадназначана для кантроля даных, атрымоўваемых у бягучым парадку ад сельска-гаспадарчых прадпрыемств і сельсоветаў. Органы НКЗема на мясцох, не распалагая дастаткова разгаліненым апаратам, абмяжоўваліся ў асноўным выверкай бланкаў заключнай справаздачы, а фактычную праверку на мясцох праводзілі толькі ў найбольш самніцельных выпадках. Зараз-жа ўчастковы інспектар на месцы, у сельсовеце, зможа праверыць правільнасць складання заключнай справаздачы, што значна палепшыць яе якасць. Стварэнне ўчастковай інспектуры з'яўляецца такім чынам, буйнейшым крокам у справе ператварэння ўчота ў зброю большэвіцкага кантроля, у зброю барацьбы за якасць лічбы.

Вядома, нарэшце, што правядзенне тых альбо іншых статыстычных работ вельмі часта затрудняюцца дрэннай пастаноўкай первічнага нізавога ўчота на прадпрыемствах, у сельсоветах, калгасах. Участковыя інспектары павінны быць актыўнымі арганізатарамі ўчота на прадпрыемствах, у асаблівасці ў калгасах і сельсоветах, абавязаны сачыць за давядзеннем да нізавых кропак устаноўленых форм учота і аказваць работнікам калгасаў і сельсоветаў практычную дапамогу ў правільнай пастаноўцы гэтага ўчота.

Участковыя інспектары, як арганізатары ўчота, павінны быць актыўнымі праваднікамі рашэнняў XVII З'езда партыі аб рэзкім скарачэнні ўчота і справаздачнасці зверху данізу і тым самым садзейнічаць палепшанню арганізацыі ўсей работы нізавога совецкага і гаспадарчага апарата.

Зусім відавочна, што эфектыўнасць перабудовы органаў дзяржаўнага ўчота і статыстыкі ў сувязі з стварэннем участковай інспектуры апрадзяляецца перш за ўсё падборам склада ўчастковых інспектароў. Якасць гэтых кадраў вырашае справу. Вось чаму падбор участковых інспектароў з'яўляецца вельмі адказнейшай і сур'ёзнай задачай.

Дрэнны падбор кадраў прывядзе толькі да стварэння грамоздскага і пасрэднага апарата, які не зможа выканаць ускладаемых на яго задач, не апраўдае тых значных затрат, якія ўкладаюцца ў арганізацыю гэтай справы.

Участковы інспектар павінен быць усебакова правераным і палітычна-пісьменным чалавекам. Непаслабная пільнасць і ўменне правільна арыентавацца ў абстаноўцы класавай барацьбы з'яўляецца першай і неадменнай умовай для прасячэння ўсялякага рода класава-варожых ізвращэнняў у галіне ўчота і статыстыкі. Акрамя таго, участковы інспектар павінен мець неабходны ўзровень агульна-адукацыйных ведаў, дазваляючых арыентавацца ў спецыяльных пытаннях учота і статыстыкі; ён павінен умець разбірацца ў пытаннях метадалогіі і арганізацыі ўчотна-статыстычнай работы ў розных галінах народнай гаспадаркі (прамысловасць, сельская гаспадарка, таваразварот і г. д.).

Штаты ўчастковай інспектуры павінны былі быць поўнасцю ўкамплектаваны да 1 лютага бягучага года. Між тым, на 15-га лютага ўсяго па Саюзу было падабрана 8606 участковых інспектароў, альбо 86% плана.

Цэлы рад абласцей своечасова і паспяхова скончыў падбор работнікаў; да іх перш усяго адносяцца: Азова-Чорнаморскі край і Армянская ССР, поўнасцю ўкамплектаваўшыя штаты, Заронежская вобласць, падабраўшая 362 чал. з 365, Днепропетроўская вобласць (180 з 187). Аслабілі тэмпы камплектавання: збекская ССР, Маскоўская, Ленінградская і Кіеўская абласці, ачатку паспяхова спраўляўшыяся з гэтай работай. Асабліва ндавальняюча працякае работа ў ДУК, Казакстане, Куйбышскім, Паўднёва-Каўказскім, Сталінградскім і Заходне-Сібірскім кіх, Чэлябінскай, Курскай і Свярдлоўскай абласцях і БССР.

Гэтыя абласці падабралі ўсяго 2691 чал. супроць штата ў 3575. Кіраўніцтвам народна-гаспадарчага ўчота гэтых абласцей патрэбна рашуча перабудавацца з тым, каб у бліжайшы тэрмін падабраць поўны кантынгент інспектароў.

Пры падборе інспектароў асаблівая ўвага павінна быць звернута на іх якасць. Патрэбна падабраць такіх інспектароў, якія будуць на вышыні пастаўленых перад ім задач. Даныя, маючыяся на 1/I-1935 г. аб 7429 інспектарах паказваюць, што з якасным складам укамплектаваных кадраў справа абстаіць далёка нездавальняюча.

Улічваючы палітычныя патрабаванні, прад'яўляемыя да ўчастковых інспектароў, неабходна іх склад камплектаваць пераважна з партыйцаў і комсамольцаў. Аб гэтым дастаткова чотка было сказана ЦУНХУ у дырэктывах сваім мясцовым органам. Маюцца ўсе магчымасці пераважную частку склада ўчастковых інспектароў падабраць з партыйцаў і комсамольцаў, а астатнюю частку з дасканала правераных беспартыйных работнікаў. Між тым, з падабраных на 1 студзеня 1935 г. 7429 інспектароў налічваецца партыйцаў і комсамольцаў толькі 59,6%, у тым ліку па РСФСР 58,5%, УССР—60%, БССР—48,6%, ЗСФСР—84,5%, Узбекскай ССР—51,2%, Туркменскай ССР—60,2%.

Аб тым, што пераважную колькасць участковых інспектароў магчыма падабраць з партыйцаў і комсамольцаў, сведчыць опыт перадавых абласцей. На самай справе, калі Армянская ССР змагла даць 92,5%, а Дагестанская АССР—89,6% комуністаў і комсамольцаў, то чым тлумачыцца, што Чэлябінская вобласць мае толькі 32,5%? Нічым, акрамя дрэннай арганізацыі работы.

Як мы ўжо сказалі, участковы інспектар павінен быць дастаткова падрыхтаваны да сваей работы. Натуральна, што далёка не ўсе 10 тыс. інспектароў могуць быць падабраны з ліку опытных статыстыкаў. Патрэбна цэлая сістэма мерапрыемстваў па іх абучэнню і пераабучэнню. Аднак, усе інспектары павінны мець такі ўзровень агульна-адукацыйных ведаў, які дазволіў-бы ім хутка і добра асвоіць новую для іх спецыяльнасць. Гэта асабліва важна таму, што абучэнне інспектароў будзе праводзіцца ў асноўным без адрыву ад іх бягучай работы і павінна быць скончана ў адносна кароткія тэрміны. Вось чаму ЦУНХУ патрабавала, каб кожны ўчастковы інспектар меў адукацыю ў аб'еме тэхнікума і толькі з-за немагчымасці ў сучасны момант падабраць 10 тыс. інспектароў з сярэдняй эканамічнай адукацыяй дапушчан падбор інспектароў, маючых агульна-адукацыйны ўзровень у кожным выпадку не ніжэй семігодкі.

Аднак, цэлы рад мясцовых УНХУ не выконвае гэтага важнейшага патрабавання. З 7429 участковых інспектароў адукацыю ў аб'еме семігодкі і вышэй маюць толькі 3664 чал. альбо 49,3%. Астатні склад падабраных работнікаў маюць больш нізкі ўзровень падрыхтоўкі. Лепш усіх выканалі патрабаванні ЦУНХУ: был. Об-Іртышская вобласць, Грузінская, Азербайджанская і Армянская ССР і Чувашская, Дагестанская і Татарск

АССР, у якіх лік участковых інспектароў з адукацыяй не ніжэй семігодкі складае ад 60 да 80%. Асабліва адсталі: Чэлябінская вобласць, Мардоўская і Марыйская аўтаномныя абласці, Карэльская і Каракалпакская АССР.

З паказанага ясна, што ў самы бліжэйшы час неабходна правесці дасканалую праверку маючагася склада работнікаў.

У студзені бягучага году ўчастковыя інспектары правадзілі перапіс жывёлы. Начальнікі УНХУ павінны ўважліва вывучыць практычную работу кожнага інспектара па гэтаму перапісу. Тых інспектароў, якія не задавальняюць пералічаным вышэй патрабаванням, трэба аслабаніць ад работы і новых інспектароў прымаць толькі пасля суровай асабовай праверкі. Некаторыя кіраўнікі мясцовых УНХУ заспакойваюцца між іншым на тым, што недастаткова падрыхтаваных участковых інспектароў магчыма будзе давучыць на курсах. Такую ўстаноўку трэба рашуча адхіліць як не сур'ёзную і неправільную. Мы не маем магчымасці адчыняць працяжныя курсы і абярнуць іх у пункты ліквідацыі непісьменнасці. Участковы інспектар павінен, паўтараем, прыйсці на работу маючы ўжо пэўны ўзровень агульнай падрыхтоўкі, дазваляючай хутка аўладаць усімі спецыяльнымі пытаннямі, звязанымі з гэтай сур'ёзнай і вельмі адказнай работай.

План работы ўчастковых інспектароў павінны скласці непасрэдна абласныя кіраўніцтвы наргасучота на падставе плана работ ЦУНХУ. Канкрэтна, у бягучым годзе пры ўдзеле участковых інспектароў павінны быць праведзены наступныя важнейшыя работы:

1. Правядзенне студзеньскага перапісу жывёлы (студзень).
2. Статыстычнае абследванне цэнзавай прамысловасці (студзень-люты).
3. Дынамічнае абследванне гаспадарчага становішча калгасаў па выбарачнаму кругу (красавік).
4. Квартальны ўчот жывёлагадоўчых таварных ферм (штоквартальна).
5. Рэгістрацыя капітальнага будаўніцтва (пераходзячае на 1935 г., нескончанае ў 1934 годзе, бягучая рэгістрацыя ўвадзімых у эксплоатацыю аб'ектаў).
6. Усесаюзны перапіс гандлёвых прадпрыемств (красавік).
7. Збор заключнай справаздачнасці аб пасеўных плошчах (чэрвень).
8. Збор даных аб відах на ўраджай па зернавым і тэхнічным культурам (чэрвень-ліпень).
9. Падатковы ўчот жывёлы і кантрольныя абходы (чэрвень).
10. Кантрольныя вымярэнні ўраджаю па зернавым і тэхнічным культурам (ліпень-жнівень-верасень).
11. Адначасовы ўчот лікавасці персаналу і фандоў зарплаты ва ўстановах і прадпрыемствах (красавік-май).
12. Абследванне калгаснага гандлю ў гарадах (штомесячна) па выбарачнаму кругу.
13. Рэгістрацыя базарных цэн у гарадах і раённых цэнтрах па выбарачнаму кругу.

14. Кантрольны ўчот устаноў народнай асветы (лістапад-снежань).

Акрамя правядзення пералічаных вышэй і рада іншых спецыяльных статыстычных работ, участковыя інспектары павінны весці бягучую работу па праверцы становішча ўчота і перыядычнай справаздачнасці прадпрыемств, калгасаў і сельсоветаў сваіх участкаў, сачыць за ўчотнай дысцыплінай, у прыватнасці за своечасовым складаннем гадавых справаздач і бягучай справаздачнасці.

У сувязі з утварэннем участковай інспектуры неабходна рашуча палепшыць практычную арганізацыю ўчотна-статыстычнай работы ў рэспубліцы, абласці, краі, раёне. Падставай гэтай арганізацыі павінен быць чоткі, прадуманы план учотна-статыстычных работ. На першых парах, асабліва сур'ёзна трэба сцерагчыся, што ўчастковы інспектар можа ператварыцца ў работніка для асобных даручэнняў пры раённым інспектары наргасучота і будзе працаваць па розным заданням ад выпадка да выпадка.

Гэтага дапусціць нельга. Участковы інспектар павінен працаваць па канкрэтнаму плану з чотка вызначанымі тэрмінамі выканання тых альбо іншых работ, абгрунтаванаму на адзіным цэнтралізаваным плане ўчотна-статыстычных работ усей сістэмы органаў ЦУНХУ.

У гэты план, неабходна ўключыць як спецыяльныя статыстычныя работы па якім участковы інспектар выступае ў якасці асобы, непасрэдна збіраючай матэрыялы—у якасці дзяржаўнага статыстыка, так і бягучыя работы, па якім інспектар з'яўляецца арганізатарам учота і кантроля.

Асаблівую ўвагу ў плане трэба ўдзяліць рабоце па пастаноўцы першчнага ўчота ў сельсоветах і калгасах, дзе роля інспектара як арганізатара учота, практычнага памоцніка нізавым работнікам, інструктара і кантралёра—асабліва значная.

Для правядзення рознага роду суцэльных і выбарачных абследванняў мясцовыя кіраўніцтвы народна-гаспадарчага ўчота заўсёды прыцягваюць вялікую колькасць спецыяльных рэгістратараў. На працягу года ў сістэму ЦУНХУ прыцягваецца некалькі дзесяткаў тысяч работнікаў. Участковая інспектура прызвана ў пэўнай меры замяніць гэтых часовых рэгістратараў сталым нізавым статыстычным апаратам. Мы лічым неабходным звярнуць на гэта асаблівую ўвагу таму, што пры разгледжанні оргпланаў і заявак на правядзенне тых альбо іншых статыстычных работ некаторыя мясцовыя органы схільны не заўважаць участковай інспектуры. Трэба раз на заўсёды усвядоміць, што павышэнне якасці статыстычных работ павінна быць дасягнута ўзмацненнем сталага нізавога статыстычнага апарата, на які павінна быць ускладзена тое, што выконвалася ў спешным парадку набіраемымі рэгістратарамі. Гэта не значыць, аднак, што мы поўнасцю адмовімся ад прыцягнення рэгістратараў і часовага статыстычнага персанала ў паасобных выпадках.

Даўшы ўчастковаму інспектару план работы, трэба сістэматычна сачыць за яго выкананнем. Гэта першачарговы абавязак райінспектароў наргасучота, гэта абавязак нашых рэспубліканскіх і абласных органаў.

З утварэннем участковай інспектуры падвышаецца адказнасць і ўскладняецца работа раённых інспектароў наргасучота. Райінспектар становіцца зараз камандзірам, арганізатарам учота у раёне, у распараджэнні якога ёсць нізавы апарат. Ён павінен правільна гэты апарат расставіць і канкрэтна ім кіраваць.

Райінспектар павінен добра ведаць кожнага участковага інспектара, яго моцныя і слабыя бакі, павінен своечасова прыйсці яму на дапамогу, паклапаціцца аб усіх яго патрэбах, у тым ліку бытавых. Райінспектар абавязан вырашчваць кадры ўчастковай інспектуры, падвышаць іх кваліфікацыю.

Участковы інспектар павінен знаходзіцца пад непаслабнай увагай не толькі райінспектароў, але і рэспубліканскіх і абласных органаў. Зацверджаюць участковых інспектароў рэспубліканскія і абластныя органы і без іх санкцыі інспектары не могуць быць зняты з работы.

Кіраўнік абласнога УНХУ сам асабова і пра сваіх бліжэйшых памоцнікаў павінен увесь час быць у курсе работы ўчастковай інспектуры, павінен забяспечыць такі кадр работнікаў, якія дапамаглі-б яму ў кіраўніцтве ўчастковай інспектурай.

Такімі памоцнікамі ў рэспубліканскіх і абластных УНХУ павінны з'явіцца ўчотныя інспекцыі. Нажаль, да гэтага часу ў шмат якіх абласцях учотная інспекцыя альбо адсутнічае зусім альбо вельмі слабая і неарганізавана.

Утварэнне ўчастковай інспектуры і далейшая барацьба за ўзмацненне райінспектуры падвышаюць значэнне ўчотнай інспекцыі. Учотная інспекцыя павінна быць перш за ўсё падабрана з людзей, добра ведаючых статыстычную работу, умеючых аказаць практычную дапамогу работнікам, праверыць іх, прыняць на мейсцы патрэбныя рашэнні. Інспекцыю трэба будаваць па тэрыторыяльнаму прызнаку і разбіць інспектароў па групам раёнаў з тым, каб кожны раённы і ўчастковы інспектар ведаў да каго ў патрэбны час звярнуцца, каб ён бачыў у прадстаўніку інспекцыі кіраўніка, які сістэматычна клапаціцца аб ім і рэагіруе на ўсе яго запытанні.

Нарэшце—пытанне аб падвышэнні кваліфікацыі ўчастковых інспектароў. У 1935 годзе ўсе ўчастковыя інспектары павінны прайсці курсавое абучэнне. Трэба зараз ужо паклапаціцца аб тым, каб курсы былі забяспечаны памяшканнямі і ўчэбнымі дапаможнікамі, падабраць выкладчыкаў і г. д. ЦУНХУ зараз прыймае неабходныя меры да своечасовага выдання літаратуры для ўчастковых інспектароў. Трэба дабіцца, каб у 1935 годзе ўвесь план курсавых мерапрыемстваў быў вытрыман у поўным аб'ёме. Гэта ва многім рашае пытанне аб паспяховасці тэорэтычнай і практычнай падрыхтоўкі той новай арміі работнікаў дзяржаўнай статыстыкі, якой абагацілася зараз сістэма органаў наргасучота.

Пытанні кіраўніцтва залежаць цалкам ад нас і наш абавязак паставіць справу так, каб нізавое звяно ў бліжэйшы-ж тэрмін стала ўпаўне баяздольным, каб дзяржаўны ўчот і статыстыка ў краіне Советаў былі ўзняты на вышэйшую ступень як па аб'ёму работы, так і па яе якасці.

---

# Указанні к оргплану і распрацоўкі даных заключнай справаздачнасці пасеўных плошчаў 1935 г.

1. У гарадах і паселішчах гарадскога тыпу (гл. „Арганізацыйны план чэрвеньскага ўчота жывёлы" дадатак 1. стр. 15) учот пасеўных плошчаў па калгасніках і аднаасобніках вытвараецца па ф. ф. № 17-а і № 17-б; па рабочых і служачых і іншаму гарадскому насельніцтву не абкладаемаму с/г падаткам пасеўныя плошчы рэгіструюцца па ф. № 8 чэрвеньскага ўчота жывёлы

2. У населеных пунктах, прыраўненых па с/г падатку да гарадоў (гл. дадатак II; стар. 17 „Арганізацыйнага плана чэрвеньскага ўчота жывёлы") у гаспадарках калгаснікаў, аднасобнікаў рабочых і служачых і іншага насельніцтва—учот пасеўных плошчаў вытвараецца па формам № 17-а і № 17-б,

3. У выпадках, калі пасевы аднаго калгаса знаходзяцца на тэрыторыі 2-х с/саветаў, то пасеўная плошча гэтых калгасаў улічваецца ў тым сельсовеце на тэрыторыі якога знаходзіцца цэнтр калгаса (праўленне).

4. Пасевы аднаасобнікаў, рабочых і служачых і іншага насельніцтва неабкладаемага с/г падаткам і пасевы ўстаноў і арганізацый сельскіх мясцовасцей (школы, бальніцы, сельпо і іншыя гаспадаркі падобнага тыпу)—улічваюцца ў тым сельсовеце дзе яны распаложаны незалежна ад местажыхарства ўласніка гэтага пасева.

5. Пасевы соўгасаў, распаложаныя на тэрыторыі некалькіх раёнаў улічваюцца па ўсяму соўгасу ў цэлым і прыпісваюцца к таму раёну, на тэрыторыі якога распаложана галоўная кантора (дырэкцыя) і не дапускаецца ні ў якім выпадку драбленне соўгаса па аддзяленням і прыпісвання іх к розным раёнам па месту іх знаходжання.

6. Раённая зводка па ф. № 2 складаецца асобна: а) на сельскія мясцовасці; б) на гарады і паселішчы гарадскога тыпа па спісам гарадоў і паселішчаў гарадскога тыпу, устаноўленым пры студзеньскім перапісу жывёлы 1935 г. (гл. дадатак 1 „Оргплана чэрвеньскага ўчота жывёлы" стар. 5 і в) агульная па р-ну (горад+сяло).

7. Пры складанні раённай зводкі ф. № 2 прапануецца кіравацца данымі Вам па чэрвеньскаму ўчоту жывёлы 1935 г. „указанні раённым інспектарам па прыёме, кантролю, падліку і распрацоўкі матэрыялаў учота жывёлы на чэрвень 1935 г. „дзе надрукавана класіфікацыя гаспадарак, якія патрэбны класці ў аснову і пры складанні раённай зводкі пасеўных плошчаў.

Такім чынам, раённыя інспектуры абавязаны ў раённай зводке ф. № 2 у гр. 3-ю („Совхозы") занесці пасеўную плошчу па суме усіх прадпрыемстваў, якія павінны быць аднесены да падзелу I „Соўгасы" паказаных у вышэй памянёным „Указанні раённым інспектарам"

У графу 4-ую раённай зводкі ф. № 2 („коопхозы") заносіцца пасеўная плошча па суме ўсіх прадпрыемстваў падзелу II указанняў—„каапгасы" (Белкаапсаюза).

У графу 3-юю раённай зводкі ф. № 2 заносяцца пасеўныя плошчы прадпрыемстваў аднесеных к падзелам III, IV, V і VIII вышэйпамянецных указанняў, за выключэннем гаспадарак, устаноў і арганізацый сельскіх мясцовасцей, якія вылучаюцца асобна ад падзела V-га ў канцы і гэтага падзелу і заносяцца ў графу 6-ую раённай зводкі ф. № 2 і пасеўная плошча, каторых павінна адпавядаць суме пасеўных плошчаў па гр. 8-ай сельсовецкай зводкі ф. № 1.

8. У звязку з тым, што ў ф. № 4 (калгаснай справаздачнасці) гародніна даецца па культурам, а па формам № 17-а і 17-б (с/совецкага ўчота) агульным ітогам па ўсёй гародніне,— пры складанні (ф. № 2, раённай зводкі) у графе „итого по всем секторам" прадстаўляюцца лічбы па ітогу гародніны, што-ж датычыцца даных аб гародніне па культурам, то яны павінны быць у графе „итого по всем секторам" пракрэслены— так як яны адносяцца толькі к соцсектару.

9. У адносінах прынцыпа аднясення да той ці іншай катэгорыі гаспадарак—неабходна кіравацца „Дадатковымі указаннямі да Оргплана і інструкцыі па чэрвеньскаму ўчоту жывёлы ў 1935 г. (дадатак да указанняў райінспектарам).

10. Для спрашчэння ўчота калектыўных рабочых агародаў магчыма ў ф. № 8, у графе, дзе павінны прадстаўляцца прозвішчы домаўласнікаў, прадстаўляць назву ўстановы альбо прадпрыемства, маючага калектыўны агарод, з указаннем ліку рабочых, удзельнічаючых у гэтым калектыўным агародзе.

У тым выпадку, калі рабочыя ці служачыя, удзельнічаючыя у гэткіх калектыўных агародах, маюць, апрача пасеваў і жывёлу то па ф. № 8 („спіс прыватных уласнікаў жывёлы і пасеваў") гэтыя рабочыя і служачыя, кожны паасобку, павінен быць зарэгістрыраван, як гаспадарка маючая жывёлу без паўторнага ўказання пасева.

11. Пасевы і сады ў гарадах і паселішчах гарадскога тыпу рэгіструюцца па ф. № 8 толькі тыя, якія па свайму размеру падлягаюць страхаванню, альбо для рэгістрацыі ўстанаўліваецца цэнз па ўзгадненню з мясцовымі органамі Дзяржстраху.

12. Канчатковы тэрмін прадстаўлення раённай і сельсовецкай зводкі і параўнальнай табліцы ф. № 3 у КНГУ БССР— 5 ліпеня г. г.

Начальнік сектара ўчота с/г КНГУ БССР *Арцемкоў*.

Кір. групы раслінаводства *Гурко*.

29 мая 1935 г., № 5/1

## Дадаткі

### К арганізацыйнаму плану работы і інструкцыі па выбарачнаму вымярэнню ўраджаю на карню ў 1935 г.

*(Змешчанага ў інфармацыйным бюлетні за май м-ц 1935 г. № 5 (31) стар. 16.)*

1. Дадаткова вылучаныя ўпаўнаважаныя па вымярэнню ўраджаю на карню ў дапамогу ўч. інспектарам (гл. у канцы спіс калгасаў, у якіх павінны быць вылучаны памочнікі уч. інспектарам) —інструкціруюцца адпаведным райінспектарам і праводзяць работу пад непасрэдным кіраўніцтвам і „нагляданнем уч. інспектара“.

2. Ва ўсіх калгасах, за выключэннем пералічаных у ніжэйзмешчаным спісу—работы па вымярэнню ўраджаю на карню па абодвым культурам вытвараецца з пачатку да канца непасрэдна ўчастковым інспектарам НГУ.

3. Для ўсіх раёнаў БССР устанаўліваецца колькасць проб,—метровак (па азімаму жыту і аўсу) па II групе, г. зн.:

| | |
|---|---|
| да 30-ці га. . . . . . . . . | 300 проб. |
| ад 30 да 100 га. . . . . . | 400 “ |
| звыш 100 га. . . . . . . | 500 “ |

(гл. падзел II інструкцыі па вымярэнню ўраджаю па карню ў 1935 г. арт. 7 стр. 6).

4. Малацьбу нажатых проб—метровак вытварыць выключна ручным спосабам.

5. Пералікі вагі зерна на адзін га, у выпадках не нармальнай вільгаці зерна (больш ці менш процанту здаваемага на заготпункты) вытвараваецца ў КНГУ БССР на падставе дасылаемага кожным райінспектарам аналіза і толькі для крытыкі матэрыялаў і ацэнкі работы ўпаўнаважанага па вымярэнню—райінспектар праводзіць пералік на 1 га не выпраўляючы карткі, указаўшы вынікі пералікаў у дакладной запіске.

6. Правейванне намалочанага зерна з проб—метровак вытвараецца выключна на ветру (не дазваляецца прапускаць праз веялку, сарціроўку і г. д.)

7. Устанаўліваюцца за высокаякаснае правядзенне работ, выкананых у тэрмін—на аснове соцыялістычных метадаў працы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва, наступныя прэміі:

а) для ўпаўнаважаных па вымярэнню ўраджаю на карню (метроўшчыкаў).

| | | |
|---|---|---|
| 2 | -„- „ . . . . . . . . . | 150 руб. |
| 3 | -„- „ . . . . . . . . . | 100 руб. |
| 10 | -„- „ . . . . . . . . . | 75 руб. |

б) для райінспектароў:

| | | |
|---|---|---|
| 1 | прэмія ў . . . . . . . . | 250 руб. |
| 1 | -„- „ . . . . . . . . | 200 руб. |
| 2 | -„- „ . . . . . . . . | 150 руб. |

8. У якасці памочнікаў упаўнаважаных па вымярэнню ураджаю на карню бяруцца з мясцовага сельскага актыву (настаўнікі, комсамольцы і г. .) гл. інфармацыйны бюлетэнь № 5 (31) за май 1935 г. падзел „кадры“ стар. 17 арт. 6.

9. Памочнікі ўпаўнаважаных па вымярэнню аплачваюцца (да 80 руб. за адну культуру) па ўгледжанню райінспектара.

10. Для забеспячэння высокаякаснай работы па метраванню— магчыма перакінуць некаторых уч. інспектароў, найбольш падрыхтаваных да гэтай работы з свайго ўчастка ў другі, у тым выпадку, калі на ўчастке гэтага уч. інспектара (найбольш падрыхтаванага) метраванне не будзе вытварацца.

У наступных калгасах з буйнымі масівамі пасева ў дапамогу ўпаўнаважаным па вымярэнню вызначаюцца платныя памочнікі:

| Назва раёна | Назва с/совета | Назва калгаса |
|---|---|---|
| 1. Лёзнянскі | Кабыльнікаўскі | „Авангард“ |
| 2. Аршанскі | Пугляеўскі | „Авангард“ |
| 3. Сененскі | Аляксініцкі | „Адамова“ |
| 4. Дзержынскі | Дзержынскі | „Большэвіцкая Сяўба“ |
| 5. Заслаўскі | Семкова-Гарадзецкі | „Дзержынскага“ |
| 6. Лагойскі | Лагойскі | „Авангард“ |
| „ | Гаенскі | АБВШ |
| 7. Смалявіцкі | Слабацкі | „Абуджэнне“ |
| 8. Уздзенскі | Магільнянскі | „Авангард“ |
| 9. Чэрвеньскі | Дамавіцкі | „Варашылава“ |
| 10. Быхаўскі | Кучынскі | „Асветнік“ |
| 11. Крычаўскі | Бацвінаўскі | „Барацьбіт“ |
| 12. Клімавіцкі | Пуцімельскі | „Большэвік“ |
| 13. Любаньскі | Юшкаўскі | „Большэвік“ |
| 14. Кармянскі | Расонкі | „Большэвік“ |
| 15. Добрушскі | Кармянскі | „Абарона“ |

Нам. Нач. Кіраўніцтва Наргасучота БССР *Кацнельсон.*

Нач. Сектара Учота с/г КНГУ БССР *Арцемкоў.*

# Класіфікацыя гаспадарак дзяржаўна-кааперацыйнага сектара.

Змяшчаемая схема класіфікацыі гаспадарак дзяржаўна-кааперацыйнага сектара сельскай гаспадаркі абавязкова для ўсіх работ, якія праводзяцца сельска-гаспадарчым сектарам КНГУ БССР.

Уся схема складаецца з 7 зводных груп:

I. Соўгасы;
II. Сельгаспрадпрыемствы ОРСаў;
III. Каапгасы Белкаапсаюза;
IV. Іншыя с/г. прадпрыемствы па забеспячэнню рабочых, служачых і іншых катэгорый насельніцтва;
V. Сельска-гаспадарчая вытворчасць (цэха пры гаспадарчых арганізацыях і ўстановах;
VI. Сельска-гаспадарчая вытворчасць даследчага, селекцыйнага, навучальнага і навукова-даследчага характара;
VII. Гаспадарчыя арганізацыі і ўстановы з рабочай і прадукцыйнай жывёлай, не звязаныя з сельска-гаспадарчай вытворчасцю.

Ніжэй пералічым, што патрэбна ўключаць у кожную з гэтых груп.

## I. Соўгасы.

У гэтую групу гаспадарак уключаюцца: 1) толькі дзяржаўныя гаспадаркі (у адрозненне ад гаспадарак сістэмы кааперацыі); 2) толькі тыя з іх, якія па дзяржаўнаму плану ўсю альбо асноўную частку сваей прадукцыі абавязаны здаць альбо дзяржзагатавіцелям альбо прамысловым прадпрыемствам у пераапрацоўку альбо прадпрыемствам грамадскага харчавання таварнага тыпу (сталовым, рэстаранам, кафэ, Наркомунутгандля); 3) толькі буйныя сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы маючыя самастойны разліковы рахунак у аддзяленні Дзяржбанка.

У другой частцы класіфікацыі прыводзіцца спіс Наркаматаў, сельска-гаспадарчыя прадпрыемства якіх могуць быць аднесены да групы соўгасаў (гл. схему). Але пры карыстанні ўказаным спісам трэба мець на ўвазе ўказаныя вышэй тры ўмовы, па якім сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы адносяцца да групы соўгасаў, так як не ўся сельская гаспадарка ўказаных вышэй сістэм можа быць аднесена да групы соўгасаў. Так напрыклад: Наркамат Харчовай прамысловасці мае не толькі соўгасы, вылучаныя на самастойны баланс з самастойным разліковым рахункам у банку, але і падсобную пры прам. прадпрыемствах сельска-гаспадарчую вытворчасць (свайго рода цэхі), але-ж апошнія не адносяцца да групы „соўгасаў“. Таксама не адносяцца да групы соўгасаў сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы той альбо іншай з паказаных вышэй сістэм, якія з'яўляюцца падсобнымі гаспадаркамі прызначанымі для забеспячэння рабочых і служачых таго ці іншага прам. прадпры-

# СХЕМА КЛАСІФІКАЦЫІ ГАСПАДАРАК ДЗЯРЖАЎНА-КААПЕРАЦЫЙНАГА СЕКТАРА.



емства. Да соўгасаў не адносяцца агралесгасы і рыбгасы як не сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы, а таксама навучальныя даследчыя і навукова-даследчыя гаспадаркі, якія вылучаюцца ў асобны раздзел.

## II. Сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы ОРСаў.

У адрозненне ад соўгасаў у гэтую групу ўключаюцца сельгаспрадпрыемствы, якія падпарадкаваны арганізаваным па пастановам ураду спецыяльна для рабочага забеспячэння ОРСам альбо УРСам трэстаў, фабрык, заводаў, прадпрыемстваў чыгуначнага і воднага транспарту і г. д..

Пры карыстанні спісам сістэм, якія маюць ОРСы, зацверджаныя пастановамі СНК (гл. схему) трэба мець на ўвазе што у даную групу ўключаюцца толькі тыя сельска-гаспадарчыя прадпрыемства ОРСаў,—УРСаў, якія з'яўляюцца самастойнымі і маюць свой разліковы рахунак у аддзяленні Дзяржбанка незалежна ад таго ці будзе гэта буйнае прадпрыемства тыпа соўгаса, ці савакупнасць сельска-гаспадарчай вытворчасці (ферма, агарод, адкормачны пункт), але аб'яднаемыя агульным рахункам у Дзяржбанку па сельскай гаспадарцы.

У гэту групу не уваходзяць паасобныя гаспадаркі (агароды, адкормачныя пункты) пры сталовых ОРСаў, пры нарыхтоўчых і гандлёвых арганізацыях ОРСаў, якія не з'яўляюцца самастойнымі і не маюць свайго асабістага разліковага рахунка ў аддзяленні Дзяржбанка.

## III. Кааператыўныя гаспадаркі Белкаапсаюза.

Сюды адносяцца буйныя сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы, якія падпарадкаваны сістэме Белкаапсаюза і маюць самастойны разліковы рахунак у аддзяленні Дзяржбанка.

## IV. Іншыя с/гасп. прадпрыемствы па забеспячэнню рабочых, служачых і іншых катэгорый насельніцтва.

У гэту групу ўключаюцца сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы з самастойным разліковым рахункам у аддзяленні Дзяржбанка, падпарадкаваныя той, альбо іншай дзяржаўнай ці грамадскай арганізацыі, не маючай ОРСа і, здаючыя сваю прадукцыю ў асноўным на забеспячэнне рабочых, служачых і іншых катэгорый насельніцтва. Да гэтай групы адносяцца гаспадаркі розных дзяржаўных устаноў, грамадскіх арганізацый (гаспадаркі НКВД, НК Абароны, Дамоў адпачынку, санаторый, курортных кіраўніцтваў НК Аховы Здароўя, ЦСПСБ, ЦВК і інш., соўгасы адміністрацыйна-гаспадарчых аддзелаў НКСоўгасаў, НКЗема і інш. Наркаматаў, ведамств і мясцовых арганізацый).

## V. Сельска-гаспадарчая вытворчасць (цэха) пры гаспадарчых арганізацыях і ўстановах.

Усе арганізацыі альбо ўстановы, якія маюць сельска-гаспадарчую вытворчасць як падсобную галіну, безразлічча аб'ему яе, падлягаюць аднясенню ў гэту групу. Сюды ўключаюцца

установы і арганізацыі, якія маюць больш альбо менш буйныя сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы, носячыя часта назву соўгасаў альбо каапгасаў, але не маючыя гаспадарчай самастойнасці і асабістага разліковага рахунка ў аддзяленні Дзяржбанка. Разам з гэтай вытворчасцю да гэтай катэгорыі павінны быць аднесены і ўстановы, маючыя хаця-б адзінкі га пасева альбо адзінкі прадукцыйнай жывёлы (буйнай рагатай, свіней, авечак).

Канкрэтна сюды павінны быць аднесены пры наяўнасці ў іх пасеваў альбо прадукцыйнай жывёлы: школы, бальніцы, сельпо, гарпо, млыны, дамы адпачынку, санаторыі, сталовыя, у тым ліку і падсобныя гаспадаркі ОРСа, (гароды, адкормачныя пункты і інш.), не маючыя самастойнага разліковага рахунка ў аддзяленні Дзяржбанка; сельска-гаспадарчая вытворчасць заводаў харчовай індустрыі па ўцілізацыі адходаў альбо па вытворчасці сыравіны (напрыклад адкормачныя пункты пры броварах многія заводы кансервнай і плодагароднай прамысловасці з сельска-гаспадарчай вытворчасцю), вялікая колькасць нарыхтоўчых кантор з пасевамі і аперацыямі па адкорму жывёлы (Заготзярно, Заготлён і інш.)

Установы і арганізацыі маючыя толькі жывёлу, якая скарыстоўваецца толькі на транспартныя патрэбы, хаця бы з маладняком, да гэтай групы не адносяцца.

## VI. Сельска-гаспадарчая вытворчасць даследчага, селекцыйнага, навучальнага і навукова-даследч. характара.

Да гэтай катэгорыі гаспадарак адносяцца даследчыя паля, селекцыйныя станцыі, навучальныя камбінаты і інш навучальныя гаспадаркі (учгасы), вядучыя і навукова-даследчую работу, вылучаныя на самастойны баланс.

Вызначаючым момантам гэтых гаспадарак з'яўляецца іх навукова-даследчы характар. Падсобныя гаспадаркі пры школах і тэхнікумах, вызначаныя для забеспячэння вучняў і выкладчыкаў, не павінны быць аднесены да гэтай катэгорыі (аб іх гл. вышэй). Не адносяцца да гэтых катэгорый таксама навучальна-даследчыя сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы, якія маюць буйнае гаспадарчае значэнне, напрыклад: навучальна-даследчы соўгас № 2 НК Соўгасаў і інш., якія павінны быць улічаны па групе соўгасаў.

## VII. Гаспадарчыя арганізацыі і ўстановы з рабочай і прадукцыйнай жывёлай, не звязаныя з сельска-гаспадарчай вытворчасцю.

У гэту катэгорыю гаспадарак уключаюцца:

а) арганізацыі і ўстановы, якія маюць толькі транспартную альбо выездную жывёлу, без наяўнасці сельска-гаспадарчай вытворчасці:

б) сюды ж адносяцца бойні, мясакамбінаты, нарыхтоўчыя пункты заготжывёлы, а таксама іпадромы і дзяржканюшні. У тым выпадку, калі пры гэтага тыпу арганізацыях маецца падсобная сельска-гаспадарчая вытворчасць, апошняя адносіцца

у адну з пералічаных вышэй груп, а сама жывёла-нарыхтоўчая база—у даную групу.

Увага: па ўчоту жывёлы ў зводкі раённых ітогаў (ф. № 5) групы „а“ і „б“ паказваюцца асобна.

---

## Не паўтараць памылак мінулага года

Адзінай крыніцай да ўстанаўлення колькасці насельніцтва па сельскіх мясцовасцях, на сучасны момант, з'яўляюцца даныя матэрыялаў сельска-гаспадарчага падатковага ўчота, правадзімага НКФ. Вопыт мінулых гадоў паказаў, што з боку райінспектур не зварачвалася ніякай увагі на раздзел „едакі“ дзякуючы чаму атрымоўваемыя ад райінспектур лічбы колькасці насельніцтва па гэтаму матэрыялу па некаторых раёнах ні ў якой ступені не скарыстоўваліся.

Па лініі НКФ у інструкцыі па правядзенню сельгаспадатковага ўчота 1935 г., даны чоткія ўказанні аб тым, каб пры правядзенні ўчота безумоўна было ахоплена ўсё насельніцтва, якое знаходзіцца на тэрыторыі сельсовета, як падлягаючае, так і не падлягаючае абкладанню (за выключэннем насельніцтва, якое жыхарствуе на тэрыторыі соўгасаў, МТС і іншых дзяржаўных і каапературных сельска-гасп. прадпрыемстваў).

У бягучым годзе найбольш неабходныя пытанні аб колькасці насельніцтва, якое не ахопліваецца па лініі НКФ, уключаны ў форму ўчота жывёлы ў гэтых прадпрыемствах (Ф. № 6).

Асноўныя сельсовецкія і раённыя формы, спушчаемыя па лініі сельска-гаспадарчага сектара КНГУ (ф. № 4, 5 і 5-а) прадугледжваюць вылучэнне акрамя калгаснікаў і аднаасобнікаў, таксама рабочых і служачых і кулацкай групы, якія заўсёды пры правядзенні гэтага ўчота дрэнна ўчытываюцца.

Нарэшце, у бягучым годзе выдзяляюцца „часова пражываючыя“. Даныя аб іх атрымоўваюцца сельсоветамі з ф. № 4 нізавога сельсовецкага ўчота („спісы гаспадарак, аб'яднаемых сельсоветамі).

Пытанне аб вычарпальным ахопе ўчотам усіх груп насельніцтва павінна стаць асноўнай задачай пры правядзенні ўчота.

*Смарадзінская.*

---

## Што называць жывёлагадоўчай спецыялізаванай фермай.

Да гэтага часу ў паасобных раёнах няма правільнага ўразумення, якую ферму патрэбна лічыць змешанай і якую спецыялізаванай:

Растлумачваем: Згодна адпаведных указанняў НКЗема змешанай належыць лічыць такую ферму, у якой маюцца два альбо некалькі відаў жывёлы ў колькасці, недастатковай для

арганізацыі спецыяльных брыгад па абслугоўванню кожнага віда жывёлы асобна.

Калі на змешанай ферме, пры росце стада, пагалоўя кожнага з відаў жывёлы дасягае размераў, дазваляючых арганізаваць спецыялізіраваныя брыгады па абслугоўванню кожнага віда жывёлы, дык такая змешаная ферма падзяляецца на шэраг спецыялізаваных ферм па колькасці відаў жывёлы).

*Каральчук*

---

## Ход работы па адначасоваму ўчоту колькасці персанала і фандоў заработнай платы.

Уся распрацоўка матэрыялаў па адначасоваму ўчоту фандоў зарплаты павінна быць скончана, згодна плана, 15 чэрвеня г. г. Ці будзе забяспечан гэты тэрмін і хто з'яўляецца зрыўшчыкам гэтай работы, па якой будуць вылічацца асноўныя паказчыкі выканання соцумовы з Заходняй і Саратаўскай абласцямі?

Побач з райінспектурамі, якія датэрмінова (на 5-20 дзён) выканалі гэтую работу і па якасці далі вельмі добры матэрыял (Віцебск, Чашнікі, Гомель, Даманавічы, Чырв.-Слабада) пераважная колькасць райінспектур выканалі работу ў тэрмін (Гарадок, Ветрына, Горкі, Чэрыкаў, Дзержынск, Крычаў, Рэчыца, Клімавічы і інш).

Аднак, маецца шэраг інспектур, якія злосна зрываюць гэтую работу: Полацк, Сураж, Сенно, Глуск, Ушачы, Бегомль, Камарына, Плешчаніцы, Талачын.

Праверка на мясцох паказала, што райінспектура не ўдзяляе належнай увагі гэтай рабоце (Асіпавічы, Сенно, Рагачоў), а менавіта,-інспектары не сочаць за тым, каб працаўнікі, на якіх ускладаецца гэта работа, добра азнаёміліся з інструкцыяй, прычым самі інспектары не праводзяць належнага інструктажу гэтых работнікаў.

Безумоўна, што ў гэтых раёнах работа па адначасоваму ўчоту праводзіцца самацёкам (Прапойск, Заслаўль, Узда, Пухавічы), зрываецца і матэрыял прысылаецца у беспарадку і недобраякасны.

Ёсць і такія райінспектуры, ад якіх не хапае матэрыялаў па некалькім адзінкам і, якія не гледзячы на спецыяльныя запытанні не клапоцяцца аб дасылцы нехапаючых картак (відавочна думаючы, што і без іх можна будзе скласці зводку) і такіх інспектур не мала: Асвея, Барысаў, Бешанковічы, Дрыса, Ельск, Жлобін, Буда-Кашалева, Расоны, Хойнікі і інш.

Ведамствы адначасовы ўчот у гэтым годзе ў большасці правялі добра за выключэннем ЦК Чырвонага Крыжу.

Як бачна, працу зрываюць нашыя-ж інспектуры. Пры чым, ёсць раёны, у якіх з месяца ў месяц зрываюцца работы амаль па ўсім сектарам КНГУ БССР.

Пара звярнуць на такое становішча больш увагі і зацікавіцца аб прычынах сістэматычнага зрыва работ некаторымі райінспектурамі.

Вынікі адначасовага ўчота павінны быць даны ўрадавым і плануючым органам у пачатку чэрвеня. Неабходна, каб заразжа адстаючыя раёны сабралі і выслалі ў КНГУ увесь матэрыял па фондам зарплаты.

Гэтую работы мы павінны скончыць у тэрмін для таго, каб выканаць узятыя абавязкі па конкурсу з Заходняй і Саратаўскай абласцямі і своечасовага даць вынікі ўчота ўрадавым органам.

*Шмідт*

---

## Не паслабляць барацьбы супроць зрыўшчыкаў ўчота і очкаўціпрацеляў.

Участковым інспектарам Наргасучота Парыцкага раёна т. Зялёным выяўлены ў Ракшынскім сельсовеце зрыў первічнага учота і выпадкі очкаўціпрацельства пры дачы звестак аб ходзе сева (калгас імя Варашылава).

Справа была перададзена следчым органам Парыцкага раёна, якія аднак знайшлі „немэтазгодным" прыцягнуць вінаватых да адказнасці і перадалі справу Прэзідыуму РВК, але апошнім таксама не было прынята ніякіх мер па гэтай справе.

Мала таго, што сапраўдныя віноўнікі не былі прыцягнуты да адказнасці, але-ж з боку старшыні і сакратара Ракшынскага сельсовета пачаліся яшчэ ганенні на ўчастковага інспектара т. Зялёнага.

Даведаўшыся аб гэтай справе, Кіраўніцтва Наргасучота БССР звярнулася да Вярхоўнага пракурора БССР с просьбай рэагаваць належным чынам на гэтую справу з тым, каб з аднаго боку прыцягнуць старшыню і сакратара Ракшынскага сельсовета да крымінальнай адказнасці за зрыў первічнага ўчота і очкаўціпрацельства і з другога боку—каб аградзіць участковага інспектара т. Зяленага ад ганенняў.

Згодна атрыманага Кіраўніцтвам Наргасучота БССР ад пракуратуры рэспублікі паведамлення (ад 28 мая 1935 г. № 11673-9), Парыцкаму райпракурору прапанавана прыцягнуць да адказнасці старшыню калгаса імя Варашылава за очкаўціпрацельства пры дачы звестак аб ходзе сева, а таксама старшыню сельсовета за зрыў первічнага ўчота. Адначасова райпракурору прапанавана праверыць, што прадпрынімаецца з боку сельсовета і калгаса супроць участковага інспектара т. Зялёнага за яго работу па выкрыццю очкаўціпрацельства і прыцягнуць вінаватых да адказнасці, а таксама прыняць меры да аховы законных правоў гаспадаркі т. Зялёнага.

Трэба спадзявацца, што зараз зрыўшчыкі ўчота і очкаўціпрацелі атрымаюць пакаранне, якога яны заслугоўваюць.

*К. Б.*

---

# Адмоўныя з'явішчы ў рабоце раённых і ўчастковых інспектур

Змяшчаючы ніжэй фактычны матэрыял, атрыманы ад раённых і ўчастковых інспектароў, характарызуючы адмоўныя моманты ў рабоце паасобных інспектур, учотная інспекцыя КНГУ гэтым самым імкнецца звярнуць увагу работнікаў інспектур на неабходнасць хутчэйшай ліквідацыі такіх недахопаў.

1. Глускі райінспектар тав. Дамброўскі даслаў наступныя звесткі аб становішчы первічнага ўчота па сельсоветам:

„З абследваных мною 14 сельсоветаў па становішчу первічнага ўчота аказалася, што ў Хваставіцкім сельсовеце ў кнігах первічнага ўчота занесены ўсе віды абавязковых паставак, за выключэннем ліку жывёлы, таксама ў Глускім, Маковіцкім і Жолвінецкім і г. д.“.

Аб якіх кнігах паведамляе тав. Дамброўскі зусім незразумела і як бачна сам тав. Дамброўскі не ведае аб чым паведамляе.

2. Ад участковага інспектара тав. Буцэнка паступіла заява, якая сведчыць аб „пісьменнасці“ паасобных участковых інспектароў.

Вось яго заява даслоўна:

„Начальнику учотнай инспекцый от участкового инспектора Наровлянского района III участка Буцэнка Василия

ЗАЯВЛЕНИЕ

Этим прашю Вас расмотреть мое заявление и переменит мне цэнтрь участка, у виду таво что унастоящим центри Дернавским с/сов. неимеется помещения, а также и тэлефона, а паэтаму прашю перевесть цэнтр у Берозовский с/совет. Прашю перевесть.

*Буценко*“.

27/IV-35 г.

Каментары не патрэбны.

3. Рудзенская інспектура наргасучота разаслаўшы па сельсоветам 7 мая дапаможныя спісы па чэрвеньскаму ўчоту (ф. № 2-1) патрабавала ад сельсоветаў запаўнення гэтых спісаў да 11 мая ў той час, калі гэтыя спісы павінны быць запоўнены пры ўчоце жывёлы ў чэрвені месяцы.

Аб чым думала райінспектура, калі давала такое распараджэнне—невядома.

# Пастанова

## Прэзідыума Касцюковіцкага Райвыканкома ад 14 мая 1935 года

### Аб артыкулу „Звязды“ пра очкаўцірацельства пры дачы звестак аб ходзе сяўбы Нізкаўскім, Тупічынскім, Студзянецкім, Царковіцкім і Дзержынскім сельсоветамі

1. РВК адзначае, што факты, змешчаныя ў артыкуле „Звязды“ аб прадстаўленні Нізкоўскім, Студзянецкім, Пячорскім, Царковіцкім, Дзержынскім і Тупічынскім сельсоветамі неправільных вестак аб ходзе сяўбы, праверкай, вытваранай па даручэнню РВК, пацвердзіліся па Нізкаўскаму, Дзержынскаму і Царковіцкаму сельсоветах (па астатніх сельсоветах факты не пацвердзіліся). РВК расцэньвае прадстаўленне неправільных звестак аб очкаўцірацельстве, накіраванае на ашуканне дзяржавы і дэзарганізацыю ўліка хода пасеўнай.

2. Райза, замест крытычнага падыходу да складання раённай зводкі аб ходзе сяўбы, праверкі ў асобных сельсоветах і калгасах правільнасці прадстаўляемых звестак, абмежаваўся механічным звядзеннем звестак сельсоветаў, скарыстоўваючы ў некаторых выпадках тэлефонныя і вусныя заявы старшынь і іншых работнікаў сельсоветаў.

3. За нядбайныя адносіны да сваіх абавязкаў, скарыстоўванне пры складанні раённай зводкі тэлефонных і вусных заяў асобных старшынь і іншых работнікаў сельсоветаў,—інспектару ўчота Райза т. Бублікаву аб'явіць **вымову**, папярэдзіўшы, што пры паўтарэнні гэтага ён будзе прыцягнут да судовай адказнасці.

4. Указаць загадчыку Райза т. Паршыну на тое, што яго прамым абавязкам была арганізацыя праверкі даваемых сельсоветамі і калгасамі звестак.

РВК абавязвае загадчыка Райза т. Паршына накіраваць у сельсоветы не менш 5-ці работнікаў свайго апарата для праверкі правільнасці даных асобнымі сельсоветамі і калгасамі звестак на 10/V-г.г., практыкуючы ў далейшай рабоце перыядычную праверку непасрэдна ў калгасах і сельсоветах правільнасці складання звестак аб ходзе ўсіх сельска-гаспадарчых работ.

5. За дачу няправільных очкаўцірацельскіх звестак аб ходзе сяўбы—аб'явіць **суровую вымову** старшыням: Царковіцкага с/совета т. Філіпенку, Дзержынскага—т. Пахажалаву і Нізкаўскага—т. Цыганкову, папярэдзіўшы ўсіх старшынь сельсоветаў і калгасаў, што за малейшыя выпадкі дачы неправільных звестак—вінаватыя ў гэтым будуць здымацца з работы і аддавацца пад суд.

6. РВК абавязвае старшынь усіх с/советаў неадкладна правесці праверку складання звестак усімі калгасамі, выправіўшы дапушчаныя неправільнасці ў наступнай зводцы аб ходзе сяўбы.

Старшыня РВК *Грэбенчык.*

Сакратар *Булаеў.*

# Выпіс

## з пратакола № 9 паседжання Прэзідыума Суражскага РВК ад 12-га мая 1935 г.

Слухалі: Матэрыял складзены ўчастковым інспектарам НГУ т. Герасімавым аб становішчы пəрвічнага ўчота па Шаброўскаму сельсовету па становішчу на 10 мая 1935 г.

Пастанавілі: Справа первічнага ўчота па Шаброўскаму сельсовету, з прычыны халатных адносін сакратара с/с т. Сямёнава і статыстыка с/с Мілешко, знаходзіцца ў надзвычайна дрэнным становішчы. Старшынёй с/с Мельянцовым пастанова СНК СССР і БССР ад 7/XII-34 г. недаацэнена, кантроль за ўчотам не ўстаноўлен, а адсюль с/с не мае ніякага штодзённага ўчоту аб выкананні гаспадарча-палітычных кампаній (напрыклад: дасланыя НГУ кнігі сельсовету апошні павінен быў завесці з 1/I-1935 г., між тым, ф. № 3, 2-а і 2-б заведзены часткова, а форма № 17 аб ходзе выканання па с/с гаспадарча-палітычных кампаній зусім не раздана ўпаўнаважаным с/с).

Выходзячы з чаго РВК пастанаўляе:

За халатныя адносіны і ігнарыраванне пастановы СНК СССР і БССР і РВК, старшыні Шаброўскага с/совету т. Мельянцову паставіць на від, а сакратару с/с т. Сямёнаву аб'явіць вымову.

Адначасова прапанаваць пад асабістую адказнасць старшыні с/с т. Мельянцава завесці ў с/с поўнасцю первічны ўчот да 15 мая г.г. і вынікі далажыць на чарговым паседжанні Прэзідыума РВК.

Прапанаваць усім старшыням сельсоветаў забяспечыць поўнае завядзенне первічнага ўчота па сельсоветам. Папярэдзіць старшынь сельсоветаў, што калі ўчот не будзе заведзен—да іх будуць прыняты меры ўздзейнічання.

Сакратар *Краўчынскі.*

---

# Конкурс

## на лепшы сельсовет Бешанковіцкага раёна па пастаноўцы работы па ўчоту і справаздачнасці ў сельсоветах

### Асноўныя задачы конкурса

У мэтах павышэння якасці работы сельскіх советаў у справе ўпарадкавання ўчотна-статыстычных работ і ўзмацнення ўчотнай дысцыпліны, Прэзідыум Бешанковіцкага Райвыканкома абвяшчае конкурс на лепшы сельсовет.

Конкурс праводзіцца на працягу 3-х месяцаў з 1-га чэрвеня да 1-га верасня 1935 г.

## Умовы конкурса

1. Добра арганізаваць і паставіць справу ўчота і справаздачнасці ў сельсовеце.

2. Своечасова і добраякасна правесці ўчот пасеўных плошчаў.

3. Добраякасна правесці Наркамфінаўскі ўчот, звярнуўшы пры правядзенні гэтай працы самую сур'ёзную ўвагу на ўчот жывёлы.

4. Поўная ліквідацыя запазычанасці перад аддзеламі РВК па прадстаўленню рознага рода звестак.

5. Мець сталы нагляд за становішчам учота і справаздачнасці ў калгасах і не менш аднаго раза ў 3 месяцы рабіць праверку становішча ўчота ў кожным калгасе сельсовета.

Не менш аднаго раза ў месяц склікаць нарады рахункаводаў калгасаў, на якіх ставіць пытанне аб становішчы ўчота і справаздачнасці ў калгасах; на гэтых нарадах даваць рахункаводам калгасаў, канкрэтныя паказанні аб наладжванні ўчота і справаздачнасці ў калгасах, скарыстоўваючы для гэтага як матэрыял абследвання, так і вопыт лепшых рахункаводаў калгасаў.

### Прэміі:

За выкананне сакратарамі сельсоветаў паказчыкаў конкурса вызначаюцца 3 прэміі: адна прэмія—100 руб. і дзве прэміі па 50 рублёў.

Прэміі гэтыя выдаюцца па вызначэнню журы.

## Журы конкурса

Для разгляду матарыялаў і ацэнкі работ сакратароў сельскіх советаў у галіне пастаноўкі ўчота і справаздачнасці і прызначэння прэміі ўтвараецца журы конкурса ў складзе т. т. Мохарта, Мардвінава і Кулакоўскага.

Старшыня РВК *Грышчанкаў.*

Інспектар НГУ *Кулакоўскі.*

---

## Якасць работы райінспектур Наргасучота

*за май месяц 1935 г.*

| Катэгорыя | Раёны | Гандлёвы перапіс | Адначас. учот фондаў зарплаты | Учот працы: У прамысловасці | Учот працы: У будаўніцтве | Учот працы: У сельск. гаспад. | Механічны рух насельніцтва | Натуральны рух насельніцтва | Рэгістрац. будаўніцтва | Калгасны гандаль | Кварт. учот жывёлагадоўлі | Сярэдняя ацэнка |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 4 | Асіповічы | 3 | 3 | 0 | 0 | 3 | 3 | 5 | 0 | 0 | 4 | 2 |
| 3 | Асвея | 3 | 3 | 0 | — | 0 | 3 | 5 | 3 | 4 | 5 | 3 |
| 2 | Бабруйск | 3 | 4 | 4 | 4 | 3 | 5 | 3 | 0 | 4 | 4 | 3,5 |
| 2 | Барысаў | 3 | 3 | 4 | 3 | 4 | 5 | 3 | 0 | 5 | 4 | 3,5 |
| 2 | Бешанковічы | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 5 | 3 | 5 | 5 | 4 | 4 |
| 2 | Брагін | 4 | 4 | 4 | — | 4 | 3 | 3 | 0 | 4 | 5 | 3,5 |
| 4 | Быхаў | 3 | 3 | 0 | 5 | 0 | 3 | 3 | 0 | 4 | 5 | 2,5 |
| 2 | Буда-Кашалева | 3 | 3 | 4 | — | 3 | 3 | 5 | 3 | 4 | 5 | 3,5 |
| 4 | Бягомль | 3 | 0 | 4 | 4 | 4 | 3 | 5 | 0 | 4 | 0 | 2,5 |
| 3 | Бялынічы | 4 | 3 | — | — | 0 | 5 | 3 | 0 | 4 | 4 | 3 |
| 4 | Багушэўск | 3 | 4 | — | — | 0 | 0 | 3 | 3 | — | 4 | 2,5 |
| 4 | Бярэзіна | 3 | 0 | 4 | 0 | 0 | 5 | 3 | 0 | 5 | 3 | 2,5 |
| 3 | Ветка | 4 | 0 | 0 | — | 0 | 5 | 5 | 3 | 4 | 5 | 3 |
| 4 | Ветрыно | 4 | 4 | 0 | 0 | 0 | — | 0 | 0 | — | 0 | 1 |
| 2 | Гарадок | 3 | 4 | 4 | — | 4 | 5 | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 |
| 4 | Грэск | 4 | 1 | 4 | — | 3 | — | 0 | 0 | — | 4 | 2 |
| 2 | Горкі | 3 | 4 | 3 | 5 | 4 | 3 | 3 | 0 | 5 | 5 | 3,5 |
| 4 | Глуск | 3 | 0 | 3 | 5 | 0 | 0 | 3 | 0 | 5 | 0 | 2 |
| 4 | Дрыбін | 5 | 3 | 3 | — | 4 | — | 0 | 0 | — | 0 | 2 |
| 4 | Журавічы | 5 | 0 | 0 | — | 4 | — | 0 | 0 | — | 0 | 1 |
| 2 | Дрыса | 3 | 3 | 2 | 0 | 3 | 5 | 5 | 3 | 4 | 4 | 3,5 |
| 4 | Даманавічы | 4 | 4 | 0 | — | 0 | — | 3 | 0 | — | 0 | 1,5 |
| 2 | Дуброўна | 3 | 3 | 4 | 4 | 0 | 3 | 3 | 3 | 4 | 5 | 3,5 |
| 2 | Добруш | 5 | 3 | 4 | 5 | 3 | 5 | 0 | 3 | — | 3 | 3,5 |
| 3 | Дзержынск | 4 | 4 | 3 | 0 | 3 | 3 | 5 | 3 | 4 | 0 | 3 |
| 4 | Ельск | 3 | 3 | 0 | — | 0 | 0 | 5 | 3 | 4 | 3 | 2,5 |
| 3 | Жлобін | 4 | 3 | 4 | 4 | 4 | 3 | 0 | 0 | 3 | 5 | 3 |
| 4 | Жыткавічы | 3 | 3 | 0 | 3 | 3 | 5 | 0 | 0 | 5 | 4 | 2,5 |
| 3 | Заслаўль | 3 | 3 | 0 | — | 3 | 3 | 5 | 0 | 5 | 5 | 3 |
| 4 | Кіраўск | 3 | 0 | 3 | — | 3 | — | 3 | 0 | — | 4 | 2 |
| 4 | Камарын | 3 | 0 | 0 | — | 3 | 3 | 0 | 3 | 5 | 5 | 2,5 |
| 2 | Карма | 4 | 3 | 3 | 4 | 3 | 3 | 3 | 3 | 4 | 5 | 3,5 |
| 4 | Кругляны | 5 | 0 | 0 | — | 3 | — | 3 | 0 | — | 0 | 1,5 |
| 2 | Касцюковічы | 3 | 4 | 3 | — | 3 | 5 | 3 | 3 | 5 | 5 | 3,5 |
| 4 | Капаткевічы | 3 | 0 | 0 | — | 0 | — | 0 | 0 | — | 0 | 0 |
| 3 | Клімавічы | 3 | 4 | 2 | 0 | 4 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 3 |
| 4 | Клічаў | 3 | 4 | 0 | 0 | 0 | 3 | 5 | 3 | 5 | 3 | 2,5 |
| 2 | Копыль | 3 | 3 | 3 | — | 3 | 5 | 5 | 3 | 4 | 5 | 3,5 |
| 2 | Крупкі | 3 | 4 | 3 | — | 4 | 5 | 5 | 0 | 4 | 5 | 3,5 |
| 2 | Крычаў | 3 | 4 | 3 | 3 | 3 | 5 | 5 | 3 | 5 | 4 | 4 |
| 4 | Лагойск | 3 | 0 | 0 | — | 0 | 0 | 3 | 0 | 4 | 5 | 1,5 |
| 3 | Лельчыцы | 3 | 3 | 4 | 0 | 0 | 5 | 3 | 3 | 4 | 5 | 3 |
| 2 | Лезна | 3 | 3 | 3 | 4 | 3 | 5 | 5 | 0 | 4 | 5 | 3,5 |
| 4 | Лепель | 3 | 4 | 0 | 0 | 3 | 3 | 3 | 0 | 4 | 0 | 2 |
| 3 | Лоеў | 3 | 3 | 4 | 0 | 0 | 5 | 5 | 3 | 4 | 4 | 3 |
| 3 | Любань | 3 | 3 | 4 | 0 | 2 | 3 | 5 | 0 | 4 | 5 | 3 |

| Катэгорыя | Раёны | Гандлёвы перапіс | Адначас. учот фондаў зарплаты | Учот працы | | | Механічны рух насельніцтва | Натуральны рух насельніцтва | Рэгістрац. будаўніцтва | Калгасны гандаль | Кварт. учот жывёлагадоўлі | Сярэдняя ацэнка |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | У прамысловасці | У будаўніцтве | У сельск. гаспад. | | | | | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 4 | Менск (раён) . | 3 | 3 | 3 | 0 | 3 | 0 | 3 | 3 | — | 5 | 2,5 |
| 2 | Магілеў . . . | 4 | 4 | 4 | 5 | 4 | 3 | 3 | 3 | 5 | 5 | 4 |
| 4 | Мехаў . . . . | 3 | 0 | 3 | — | 3 | — | 0 | 0 | — | 4 | 2 |
| 2 | Мозыр . . . | 3 | 4 | 3 | 3 | 3 | 5 | 3 | 0 | 5 | 5 | 3,5 |
| 2 | Мсціслаў . . . | 4 | 4 | 3 | — | 3 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 3,5 |
| 4 | Нароўля . . . | 3 | 0 | 0 | — | 0 | 3 | 3 | 3 | 0 | 0 | 1,5 |
| 2 | Орша . . . . | 4 | 4 | 3 | 3 | 3 | 5 | 5 | 3 | 4 | 5 | 4 |
| 2 | Парычы . . . | 4 | 4 | 3 | 3 | 0 | 3 | 5 | 3 | 4 | 5 | 3,5 |
| 4 | Плешчаніцы . . | 3 | 0 | 3 | — | 3 | 0 | 3 | 3 | 0 | 3 | 2 |
| 4 | Полацк . . . | 2 | 0 | 3 | 0 | 3 | 5 | 0 | 3 | 5 | 5 | 2,5 |
| 4 | Прапойск. . . | 5 | 0 | — | 0 | 0 | 5 | 3 | 0 | 5 | 4 | 2,5 |
| 4 | Пухавічы . . . | 3 | 0 | 0 | 0 | 3 | 0 | 3 | 0 | 4 | 0 | 1,5 |
| 4 | Петрыкаў. . . | 3 | 0 | 3 | 0 | 2 | 3 | 3 | 3 | 4 | 5 | 2,5 |
| 2 | Рагачоў . . . | 4 | 0 | 2 | 3 | 3 | 5 | 5 | 3 | 4 | 4 | 3,5 |
| 4 | Рудзенск . . . | 3 | 0 | 3 | 5 | 3 | — | 0 | 0 | — | 0 | 1,5 |
| 2 | Расоны . . . | 4 | 3 | 3 | 0 | 3 | 5 | 5 | 3 | 4 | 5 | 3,5 |
| 3 | Рэчыца . . . | 4 | 4 | 3 | 3 | 3 | — | 0 | 0 | 5 | 5 | 3 |
| 4 | Свяцілавічы . . | 4 | 3 | 0 | — | 0 | — | 0 | 0 | — | 5 | 1,5 |
| 3 | Сенно . . . . | 4 | 3 | 3 | — | 3 | 5 | 3 | 0 | 4 | 3 | 3 |
| 2 | Слуцк . . . . | 4 | 4 | 3 | 3 | 3 | 5 | 5 | 3 | 5 | 4 | 4 |
| 3 | Смалявічы . . | 3 | 3 | 3 | 0 | 3 | 3 | 5 | 0 | 4 | 5 | 3 |
| 4 | Старобін . . . | 4 | 3 | 0 | 0 | 3 | 5 | 3 | 3 | 0 | 5 | 2,5 |
| 2 | Сураж . . . | 5 | 0 | 3 | 5 | 4 | 3 | 5 | 0 | 4 | 5 | 3,5 |
| 2 | Ст. Дарогі . . | 4 | 4 | 3 | — | 4 | 5 | 5 | 3 | 4 | 5 | 4 |
| 2 | Сіроціна . . . | 3 | 3 | 4 | 5 | 4 | 5 | 3 | 5 | 4 | 5 | 4 |
| 4 | Талачын . . . | 3 | 0 | 0 | — | 3 | 3 | 5 | 0 | 4 | 5 | 2,5 |
| 2 | Тураў . . . . | 3 | 3 | 4 | 5 | 4 | 5 | 5 | 3 | 0 | 4 | 3,5 |
| 3 | Уваравічы . . | 3 | 4 | 3 | 3 | 3 | 3 | 0 | 3 | 4 | 5 | 3 |
| 2 | Узда . . . . | 3 | 0 | 3 | 3 | 3 | 5 | 5 | 3 | 4 | 5 | 3,5 |
| 4 | Ушачы . . . | 3 | 0 | 3 | 5 | 0 | 0 | 3 | 0 | 4 | 4 | 2 |
| 4 | Хоцімск . . . | 5 | 0 | 0 | — | 0 | — | 0 | 0 | — | 5 | 1 |
| 2 | Хойнікі . . . | 3 | 3 | 2 | 3 | 3 | 5 | 5 | 3 | 4 | 4 | 3,5 |
| 4 | Халопенічы . . | 4 | 0 | 3 | — | 0 | 0 | 0 | 0 | — | 0 | 0 |
| 2 | Церахава . . . | 4 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 | 5 | 0 | 4 | 5 | 3,5 |
| 3 | Чачэрск . . . | 4 | 3 | 0 | — | — | 0 | 5 | 3 | 5 | 3 | 2,5 |
| 2 | Чашнікі . . . | 3 | 5 | 3 | 5 | 4 | 5 | 5 | 0 | 4 | 5 | 4 |
| 4 | Чаусы. . . . | 2 | 3 | 0 | — | 3 | 3 | 3 | 0 | 0 | 5 | 2 |
| 4 | Чырвонаполле . | 3 | 4 | 3 | 0 | 0 | 3 | 3 | 0 | 4 | 0 | 2 |
| 3 | Чэрвень . . . | 3 | 4 | 3 | — | 3 | 3 | 5 | 0 | 4 | 4 | 3 |
| 3 | Чырв. Слабада . | 3 | 4 | 3 | — | 3 | 3 | 5 | 0 | 0 | 5 | 3 |
| 2 | Чэрыкаў . . . | 4 | 4 | 3 | 2 | 3 | 5 | 5 | 3 | 5 | 5 | 4 |
| 3 | Шклоў . . . | 4 | 0 | 3 | 5 | 0 | 5 | 3 | 3 | 5 | 4 | 3 |
| 3 | Менск (горад) . | 3 | 3 | 3 | 3 | — | 5 | 3 | 3 | 4 | — | 3 |
| 1 | Віцебск . . | 4 | 5 | 4 | 5 | 5 | 5 | 5 | 0 | 5 | 5 | 4,5 |
| 1 | Гомель . . | 4 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 3 | 5 | 5 | 5 |

Адзнакі: Пры своечасовай дасылцы матэрыяла ставіцца . . . 5
Пры спазненні . . . . . . . . . . . . 3
Зусім не даслана . . . . . . . . . . . 0
Пры атрыманні поўнасцю матэрыяла ставіцца . . . 5

| | |
|---|---|
| Да 75% матэрыяла ставіцца . . . . . . . . . . . | 3 |
| Менш 75-ці проц. ставіцца . . . . . . . . . . . | 0 |
| Якасць матэрыяла добрая ставіцца . . . . . . . . | 5 |
| Здавальняючая . . . . . . . . . . . . . . . . | 3 |
| Дрэнная . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 0 |

З паказаных трох паказчыкаў якасці выводзіцца сярэдняя, напрыклад, 12:3 = 4; 15:3 = 5 і г. д.

---

# Загад № 244

## Па кіраўніцтву наргасучота БССР

*ад 10 чэрвеня 1935 года.*

Асабістай праверкай работы Дзержынскага райінспектара НГУ т. Міронавай установлена наступнае:

1. Дынамічнае апісанне калгасаў пачата 28 мая і па становішчу на 9 чэрвеня закончана ўсяго па аднаму калгасу з 6. Пры гэтым т. Міронава не нашла патрэбным нават адказаць на тэлеграфнае запытанне начальніка КНГУ аб становішчы справы.

2. Па Чэрвеньскаму ўчоту жывёлы яшчэ не аформлена пастанова Райвыканкома, не намечаны брыгадзіры кантрольных абходаў, не вызваны для інструктажа ў інспектуру прадстаўнікі соўгасаў і не толькі не прыступлена да правядзення самага ўчота ў райцэнтры, але нават не намечаны і рэгістратары-учотчыкі.

3. Па заключнай адчотнасці па севу—акты састаўляюцца не па ўсім калгасам. Частка упаўнаважаных, выдзеленых Райзо для інструктажа і праверкі работы ў сельсоветах,—бяздзейнічае (уч. аграном Кулікоўскі).

4. Учот рэгістрацыі буд-ва пушчан на поўны самацёк—да гэтага часу даабследванне буд-ва за 1934 г. не праведзена. Праверкай установлена, што інспектура мае дакладныя звесткі па 22 калгасам не зарэгістрыраваўшых свайго буд-ва і разам з тым ніякіх мер да іх інспектурай не было прынята. Пастанова РВК ад 20 мая 1934 г. аб накладанні штрафу за нерэгістрацыю буд-ва інспектарам не скарыстоўвалась.

5. Прапаную ўчотнай інспекцыі правесці праверку работы Дзяржынскай інспектуры.

Папярэджваю т. Міронаву што ў выпадку, калі яна не забяспечыць на працягу чэрвеня м-ца г. г. поўную ліквідацыю ўсіх прарываў у рабоце інспектуры з боку КНГУ БССР будуць прыняты меры суровыя меры уздзейнічання.

Начальнік КНГУ БССР *Владзімірскі.*

# Загад № 248

## Па кіраўніцтву Наргасучота БССР

*ад 11/VI—1935 года.*

§ 1.

1. За прыкладную арганізацыю правядзення аднаразовага учота колькасці персаналу і фандоў зарплаты прэміраваць непасрэдных выканаўцаў гэтага ўчота наступных інспектур:

1. Віцебская—150 руб.—за добрую арганізацыю, своечасовае і добраякаснае прадстаўленне матэрыялаў і за забеспячэнне прысылкі матэрыялаў па Суражскаму раёну.

2. Чашніцкай—75 руб. за датэрміновае і добраякаснае прадстаўленне матэрыялаў і за забеспячэнне прысылкі матэрыялаў па Бягомльскаму р-ну.

3. Даманавіцкай—50 руб. Не гледзячы, што раён уноў арганізаваны, матэрыял быў прадстаўлен своечасова і добраякасна.

§ 2.

На раду з лепшымі інспектурамі маюцца інспектуры, якія да гэтага часу не выканалі гэты важнейшы ўчот.

1. Полацкая—інспектар тав. Мізараў; Мехаўская—тав. Бажонак.

§ 3.

За непрадаўстаўленне матэрыялаў адначасовага ўчота кольк. персанала і фандоў зарплаты тав. Мізараву—(Полацк) абвяшчаю вымову. Тав. Бажонак—(Мехава)—стаўлю на від.

§ 4.

Запазычанасць па Капаткевіцкаму р-ну, абавязваю ліквідаваць камандыруемаму супрацоўніку КНГУ БССР тав. Барэнбауму і па Свяцілавіцкаму р-ну—камандыруемаму супрацоўніку тав. Мацьвеяву.

§ 5.

Прапаную ўсім інспектарам ліквідаваць у аднадзенны тэрмін запазычанасць па фондам зарплаты па ўсім прадпрыемствам і ўстановам, тэрмін высылкі па якім быў устаноўлен 2/V г. г., а таксама і па ўстановам Аховы здароўя, тэрмін высылкі па якім быў устаноўлен 10/VI г. г.

Нам. Нач. КНГУ БССР *Кацнельсон.*

---

Рэдкалегія: *Арцямкоў*, *Голант*, *Магідаў*

Адказны рэдактар *В. Магідаў.*



---

Уп. Галоўлітбелу № 3097. Тыраж 400 экз. 3 арк. Заказ № 675.
Здана ў друк 5/VI 1935 г. Падпісана да друку 14/VI-1935 г.
Друкарня Беларускай Акадэміі Навук. Менск, Няміга, 7.

